# З цяплом і выраем крылатым ідзе зычлівая пара

# «Звязда» віншуе вас са святам — матуля, жонка і сястра!

● выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

7 сакавіка 1996 г.
чацвер, №№ 66-67
(22869-22870)




# ЗВЯЗДА

## ДАРАГІЯ, ЦУДОЎНЫЯ ЖАНЧЫНЫ БЕЛАРУСІ!

У гэта веснавое і светлае свята — 8 Сакавіка — прыміце самыя шчырыя, сардэчныя віншаванні, глыбокую ўдзячнасць і падзяку.

Вашы нястомныя клопаты аб доме, сям'і, дзецях, ваша вернасць і дабрыня, жаночая міласэрнасць і мудрасць па праву заслугоўваюць вялікай любві і павагі.

Жанчына заўсёды была захавальніцай дамашняга ачага і міру, заўсёды несла жыццё і любоў. Таму ў гэты святочны дзень вясны, жадаючы вам шчасця, прыгажосці і дабрабыту, я хацеў бы, каб вам ва ўсім спадарожнічалі шчырая чалавечая радасць, пяшчотная адкрытая ўсмешка, надзея на лепшае жыццё.

Добра разумею, што сёння, у гэты няпросты час, калі эканамічныя праблемы нярэдка дыктуюць нам жорсткія ўмовы, на вашы жаночыя плечы кладуцца шматлікія клопаты і выпрабаванні. І ўсё ж я глыбока перакананы, што наш народ зможа іх пераадолець, зробіць усё для таго, каб Беларусь была квітнеючай і моцнай краінай. Гэту веру ў мяне ўсяляе ваша жыццесцвярджальная энергія, ваша вялікае цярпенне, ваш аптымізм і працавітасць.

Цудоўныя якасці, характэрныя для Вас, жанчын роднай Беларусі, дапамагаюць нам і сёння, у час абнаўлення грамадства, калі нам усім нялёгка. Дзе б вы ні працавалі: у сельскай гаспадарцы, у сферы адукацыі і культуры, у ахове здароўя і спорце, вы ўсюды дабіваецеся значных поспехаў, працуеце сумленна, з поўнай аддачай. Прымаючы ўдзел у кіраванні дзяржавай, у грамадскім жыцці рэспублікі, вы і тут садзейнічаеце развіццю і ўмацаванню аўтарытэту нашай краіны.

Стабільнасць у дзяржаве, спакой у беларускім доме, жывая думка ў школьным класе ўсталёўваюцца дзякуючы Вам, жанчынам Беларусі. Сваёй мужнасцю, дабрынёй і разважлівасцю, сардэчнасцю і цеплынёй вы ахоўваеце не толькі нялёгкі сённяшні дзень, але і будучыню нашай рэспублікі.

Нізкі Вам паклон!

Вялікі Вам дзякуй, дарагія жанчыны: маці, сёстры, жонкі, дочкі, сяброўкі.

З сонечным веснавым святам Вас. Радасці, дабрабыту, шчасця.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь**
**А. ЛУКАШЭНКА.**

## ДАРАГІЯ ЖАНЧЫНЫ!

Ваша свята надыходзіць тады, калі адступаюць зімовыя маразы, сонца дасылае на зямлю ласкавыя промні, чуюцца вясёлыя галасы птушак. Усё навокал ажывае і цягнецца да цяпла.

Духоўная цеплыня, жыццеўстойлівасць, дабрыня, цярплівасць, імкненне да прыгажосці — рысы, уласцівыя жанчынам. Ваша стваральная энергія, уменне зразумець, пайсці на кампраміс дзеля захавання ладу ў сям'і і грамадстве нясуць у свет гармонію і любоў.

І як бы цяжка вам ні даводзілася, а лёс, на жаль, вас не песціў у розныя часы, вы заўсёды заставаліся на вышыні. І зараз, нягледзячы на жыццёвыя складанасці, вы не згубілі веры, надзеі, любові. Як і заўсёды, вы прыгожыя, элегантныя, сабраныя, здольныя бліскуча вырашаць самыя складаныя пытанні народнай гаспадаркі, культуры, навукі, палітыкі.

Дарагія суайчынніцы! Вы дастойныя найлепшых слоў падзякі. Прыміце віншаванні з нагоды цудоўнага свята — Дня жанчын. Няхай не засмучаюць вас ніякія выпрабаванні і расчараванні. Ніколі не губляйце веры ў сябе, свае здольнасці і магчымасці, бо пасля зімы заўсёды надыходзіць вясна.

Ад шчырага сэрца жадаю вам, дарагія беларускія жанчыны, усяго самага найлепшага, светлага, чыстага, добрага!

Шчасця, здароўя, бадзёрасці і аптымізму вам, вашым дзецям і сем'ям.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ.**



Фота Юрася ЛЯШКЕВІЧА.

## ДАРЫЦЕ ЖАНЧЫНАМ НЕ ТОЛЬКІ КВЕТКІ, НЕ ТОЛЬКІ ЎСМЕШКІ...

***Сакавік... Пачатак вясны... Месяц добрага сонца. Час, які дорыць нам адзін з самых радасных святаў.***

***Міжнародны жаночы дзень 8 Сакавіка — свята палавіны чалавецтва. І якой палавіны! Самай абаяльнай, самай прыгожай, самай добрай. Усё жыццё мы адчуваем на сабе клопаты жанчын. Усім, што ў нас ёсць добрага, мы абавязаны ім, жанчынам. Дык як жа нам не шанаваць іх, дарагіх і блізкіх, — нашых маці і сяброўак, калег па прафесіі і каханых?***

***«Дарыце жанчынам кветкі...» І мы дорым. Сёння таксама. Не верыцца, мужчыны, што робім гэта сёння хутчэй толькі таму, што свята. А лепш было б з любові, з павагі. Успомніце, як у юнацтве, калі бегалі на спатканні, знаходзілі ў сваім студэнцкім кашальку на букецік фіялак, на гваздзік, а калі-нікалі і на ружу. Чаму ж цяпер, калі сталі мужчынамі, калі маем свае зробленыя грошы, забываем пра гэта? Магчыма, менавіта букеціка фіялак ці гваздзіка якраз і не хапае нашым жанчынам, каб забыцца на стомленасць, каб твар каханай асвяціўся добрай усмешкай.***

***Усе кветкі сёння — жанчынам. Сёння іх дзень. Сёння іх свята. Сёння мы віншуем і ўшаноўваем жанчын. Сёння мы дорым ім усе кветкі і нашы ўсмешкі. Мы жадаем кахання і шчасця, мы жадаем ім здароўя і дабрабыту — сёння іх дзень.***

***Мужчыны, чаму толькі сёння, толькі аднойчы ў год? Чаму б не зрабіць так, каб кожны дзень быў іх днём? А гэта, пагадзіцеся, ужо залежыць ад нас, мужчын.***

***Успомніліся словы мудраца мінулага: «Жанчыну стварыў Бог. Але хто выпраміць яе, каб яна магла паглядзець у твар боскаму?» На самай справе, хто?***

***Мужчыны, будзем мужчынамі. Будзем дарыць жанчынам кветкі не толькі ў іх дзень і ўсміхацца не толькі па святах. Будзем заўсёды памятаць, што ім так неабходна наша дапамога, і не толькі ў хатніх клопатах. Кожны дзень яны чакаюць ад нас справы. Канкрэтнай. Няпростай. Рашучай і вельмі патрэбнай ім. І нам усім. Таму што і наша мужчынскае жыццё стане больш прывабным і шчаслівым.***

***Дарыце жанчынам кветкі! Усміхайцеся ім! Шкадуйце іх! Дарагія жанчыны, вам — нашы кветкі, вам — нашы ўсмешкі, вам — наша шанаванне! І не толькі ў святы.***

**МУЖЧЫНЫ-«ЗВЯЗДОЎЦЫ» — ЖАНЧЫНАМ-ЧЫТАЧКАМ.**

*Анатоль ЗЭКАЎ*

## МОЙ ТОСТ

*На тое сёння ёсць прычына,*
*што першы, а не трэці тост*
*я ўзніму за вас, жанчыны,*
*устаўшы сам на поўны рост.*

*Я ўзніму свой тост за вочы,*
*што — як пралескі па вясне.*
*Я ўзніму свой тост за ночы —*
*хай грэюць вас, як і раней.*

*Я ўзніму свой тост за губы*
*(іх прыцягненне — як магніт),*
*за шэпт таемна-ціхі «любы»,*
*што разбурае і граніт.*

*Я ўзніму свой тост за рукі,*
*што колісь выняньчылі нас,*
*а сёння пеступць унукаў,*
*хоць адпачыць бы самы раз.*

*Я ўзніму свой тост за тое,*
*каб вы не зведалі вайны*
*і каб каханне маладое*
*век саладзіла вашы сны.*

*Тост узніму за вашу долю —*
*няхай пашле вам шчасце Бог...*

*Я б мог сказаць яшчэ і болей,*
*каб толькі выпіць болей мог.*

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## ПАРЛАМЕНТАРЫІ ПАЧАЛІ НАСТУПЛЕННЕ НА ЛЬГОТЫ

**Не згадзіўшыся з прапановамі аб адмене льгот для радавых грамадзян (ветэранаў, інвалідаў, медыцынскіх работнікаў і работнікаў адукацыі, ваеннаслужачых і інш.), парламентарыі пайшлі на рэзкае іх скарачэнне ў адносінах да чыноўнікаў.**

На вячэрнім пленарным пасяджэнні 5 сакавіка яны ўнеслі змяненні ў Законы «Аб статусе народнага дэпутата мясцовага Савета народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь», «Аб статусе народнага дэпутата Рэспублікі Беларусь», «Аб Кабінеце Міністраў Рэспублікі Беларусь», «Аб Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь». У прыватнасці, выключаны артыкул, які дае права дэпутатам на бясплатны праезд, 36-дзённы водпуск. Прыняты новы артыкул, што дазваляе дэпутату Вярхоўнага Савета набываць праязныя дакументы ў першую чаргу, а пры адсутнасці месцаў бесперашкодна праходзіць на пасадку без права заняцця месца з наступнай аплатай кошту праезду. Значна скарочаны льготы, якія датычаць прэм'ер-міністра і Прэзідэнта.

У цэлым жа Камісіі па дзяржаўнаму будаўніцтву і мясцоваму самакіраванню даручана дапрацаваць праект закона «Аб упарадкаванні некаторых ільгот для асобнай катэгорыі грамадзян» для прыняцця канчатковага рашэння.

На ранішнім пасяджэнні 6 сакавіка Вярхоўны Савет пачаў абмеркаванне галоўнага эканамічнага закона краіны, па якім нам трэба будзе жыць у гэтым годзе — праекта дзяржаўнага бюджэту на 1996 год. Прадстаўляючы ад імя ўрада гэты дакумент, міністр фінансаў Павел Дзік паведаміў, што работа над ім вялася больш чым паўгода. Праект неаднаразова абмяркоўваўся на нарадах у Прэзідэнта, у Кабінеце Міністраў, Савеце бяспекі, дэталёва разглядаўся парламенцкімі камісіямі.

Урад прагназіруе, што даходы кансалідаванага бюджэту (рэспубліканскага і мясцовых) складуць увогуле 58 трыльёнаў рублёў, або 162 працэнты да мінулага года.

(Заканчэнне на 3-й стар.)

# НА КАНТРОЛІ — БЮДЖЭТ І ФІНАНСЫ

**ТАДЫ, чатыры гады назад, калі Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прыняў Закон аб Кантрольнай палаце, вакол пытання аб неабходнасці яе было столькі думак, меркаванняў, выказванняў... Адны лічылі новы кантралюючы орган зусім непатрэбным: маўляў, кантралёраў і так больш чым дастаткова; другія наадварот бачылі ў Кантрольнай палаце ледзь не выратавальніка ад развалу ў такой жыццёва важнай сферы, як эканоміка і фінансы; трэція, як гэта нярэдка бывае, занялі пазіцыю чакання: пажывём — пабачым. І вось мінулі чатыры гады. Ззаду застаўся перыяд фарміравання і станаўлення, час пошуку сваёй ролі і месца ў сістэме органаў улады і кіравання Рэспублікі Беларусь. А яшчэ набыты першы, самы каштоўны вопыт кантрольнай дзейнасці за фарміраваннем і выкананнем рэспубліканскага бюджэту, выкарыстаннем дзяржаўнай уласнасці, захаваннем законаў і пастаноў вышэйшага заканадаўчага органа краіны — Вярхоўнага Савета.**

**Аб набытках у працы, складанасцях і праблемах, якіх, вядома ж, было больш чым дастаткова, і вялася прафесіянальная, дзелавая і зацікаўленая размова на нарадзе работнікаў Кантрольнай палаты, што днямі прайшла ў Мінску.**

Галоўнае ўражанне, якое я вынес з нарады: тут ведаюць, як лічыць грошы, і ўмеюць гэта рабіць. Праўда, ад знаёмства з лічбамі вельмі часта станавілася нядобра: няўжо ў цывілізаванай дзяржаве магчыма такое?

А можа, нам проста яшчэ далекавата да той цывілізаванасці?!

А каб не быць галаслоўным, адразу ж прывяду толькі некалькі лічбаў, ад якіх, перакананы, і ў чытача ўзнікнуць «нядобрыя» думкі. Дык вось: страты дзяржавы, выяўленыя летась Кантрольнай палатай, склалі звыш чвэрці трыльёна рублёў, 14 мільёнаў амерыканскіх долараў, каля 1 мільёна марак ФРГ.

І як не прыгадаць тут кінутае ў парыве гневу класікам слова: «Крадуць!» А яшчэ варта дадаць: хлусяць, маніпулююць, утойваюць...

І ўсё гэта — вакол дзяржаўнай казны, маёмасці, нерухомасці.

...Час фарміравання і станаўлення Кантрольнай палаты супаў з перыядам карэннага змянення палітычнай абстаноўкі, дзяржаўнага ўладкавання і кіравання. «Але, — падкрэсліў у сваім выступленні старшыня палаты Васіль Саковіч, — нязменна галоўным для Кантрольнай палаты заставалася ажыццяўленне ўскладзеных на яе канстытуцыйных абавязкаў — забеспячэнне незалежнага і аб'ектыўнага дзяржаўнага фінансава-эканамічнага кантролю».

Фінансава-эканамічны кантроль, які ажыццяўляе палата, з'яўляецца неад'емным элементам дзяржаўнага кіравання і рэгулявання ў сферы эканомікі. У рознай форме і інтэрпрэтацыі гэта думка гучала вельмі часта з вуснаў кантралёраў. А паколькі рэфарміраванне эканомікі адбываецца ў рэспубліцы ва ўмовах адсутнасці цэласнай канцэпцыі і заканадаўчай базы, работнікі палаты і імкнуцца зрабіць усё, каб паспрыяць удасканаленню гэтага працэсу.

В. Саковіч, які ўзначальвае Кантрольную палату з моманту яе стварэння, вызначыў чатыры асноўныя пазіцыі ў дзейнасці падначаленай яму службы:

правільнасць выбару прыярытэтных накірункаў кантролю, выяўленне найбольш істотных парушэнняў законнасці ў выкарыстанні дзяржаўных сродкаў і ўласнасці, недахопаў дзяржаўнага рэгулявання ў падкантрольных сферах;

значнае ўзбуйненне маштабаў кантролю, што дазволіла ўсё часцей выходзіць на агульнадзяржаўныя праблемы;

пераход да сістэмнага вывучэння і комплекснага аналізу праблем дзяржаўнага рэгулявання падкантрольных сфер, экспертызы прапаноў органаў выканаўчай улады ў адрас Вярхоўнага Савета;

завяршэнне распрацоўкі метадалагічнай і метадычнай баз па асноўных накірунках кантрольнай работы.

За мінулы год Кантрольная палата правяла каля 1600 праверак. Страты дзяржавы ў грашовым і валютным выражэнні, выяўленыя ў ходзе іх, прыведзены вышэй. Вынікі 72 праверак разгледжаны на савеце палаты, а Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь, Вярхоўнаму Савету, Кабінету Міністраў, міністэрствам і ведамствам накіраваны 155 матэрыялаў праверак. Вынікі 45 кантрольных рэвізій перададзены для прыняцця мераў у праваахоўныя органы. Па дакументах палаты 30 рашэнняў прынялі ўрад і мясцовыя органы кіравання, а 232 службовыя асобы прыцягнуты да дысцыплінарнай адказнасці. Дзяржаве вернуты незаконна зрасходаваныя сродкі і страты ад продажу дзяржаўнай маёмасці на суму 51 мільярд рублёў і 4 мільёны долараў ЗША.

Хто ж трапіў у «поле зроку» Кантрольнай палаты?

Перш чым прывесці далёка не поўны пералік правераных арганізацый, устаноў, прадпрыемстваў, хочацца зрабіць вось якую заўвагу. Аб'екты для праверкі тут не падзяляюцца на першачарговыя і другарадныя. Як адзначыў Васіль Саковіч у час правядзення ў мінулым годзе «прамой лініі» з чытачамі «Звязды», супрацоўнікамі палаты могуць быць правераны (і правяраюцца) суб'екты гаспадарання, у статутным фондзе якіх ёсць хоць бы адзін працэнт дзяржаўных сродкаў.

Такім чынам, летась была праверана знешнеэканамічная дзейнасць Мінскага трактарнага завода, вытворчых аб'яднанняў «Беларуськалій», «Азот», «Інтэграл», сумеснага прадпрыемства «Белвест», пастаўка ўзбраенняў і спецыяльнай тэхнікі за мяжу «Белтэхэкспартам» і рагачоўскім заводам «Дыяпраектар», ход выканання праграмы прыватызацыі, у тым ліку прыватызацыя такіх аб'ектаў, як «Гандлёвы дом «На Нямізе», НВА «Цэнтр», віцебскага прадпрыемства «Веста», аб'яднання «Керамік», Лідскага піўзавода... Правераны шэраг міністэрстваў, камітэтаў і канцэрнаў: міністэрствы сельскай гаспадаркі і харчавання, архітэктуры і будаўніцтва, прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, транспарту і камунікацый, лясной гаспадаркі, працы, паліва і энергетыкі, абароны, Мінмаёмасці, Белнафтапрадукт, Белмясцпром. Быў прааналізаваны ход выкарыстання дзяржаўных сродкаў Сакратарыятам Вярхоўнага Савета, што, дарэчы, раней лічылася проста неверагодным і практычна немагчымым.

Галоўным жа накірункам дзейнасці палаты стаў, несумненна, кантроль за захаваннем заканадаўства, што рэгулюе функцыянаванне бюджэтнай сістэмы, ажыццяўленне бюджэтнага працэсу ў рэспубліцы ў цэлым. Дарэчы, праблемы фарміравання і выканання рэспубліканскага бюджэту да стварэння Кантрольнай палаты раней практычна нікім не вывучаліся і не аналізаваліся, не кажучы ўжо пра існаванне цэласнай сістэмы. Цяпер жа супрацоўнікі палаты пільна сочаць за правільнасцю выкарыстання бюджэтных сродкаў у цэлых галінах народнай гаспадаркі Беларусі, па буйнейшых накірунках і праграмах. Што такі кантроль дае на практыцы? Вось што: толькі ў лячэбных установах Мінтранса выяўлена каля 600 мільёнаў рублёў незаконных выдаткаў.

Аднак эфект ад дзейнасці кантралёраў можа быць куды больш значным. Меў рацыю В. Саковіч, калі заявіў: вырашэнне праблем мэтавага і эфектыўнага выкарыстання бюджэтных сродкаў у многім залежыць не толькі ад накіраванасці і зместу кантрольнай работы, але і ад дзеянняў выканаўчай улады і дасканаласці заканадаўства.

Старшыня Кантрольнай палаты меў на ўвазе наступнае. Як вядома, адкрытасць бюджэту як для дэпутатаў Вярхоўнага Савета, так і для кожнага з нас, падаткаплацельшчыкаў, — правіла жыцця ўсё таго ж цывілізаванага грамадства. У нас жа яно не захоўваецца. Чаму? Пытанне, як кажуць, цікавае, а адказ на яго можа быць наступны: значыць, гэта камусьці трэба! А вось закрытасць бюджэту не дазваляе — ні тэарэтычна, ні практычна — ажыццяўляць належны аналіз яго на стадыях складання, разгляду, абмеркавання, зацвярджэння і, натуральна ж, выканання. Кіраўніцтва Міністэрства фінансаў пагаджаецца з гэтым вывадам (міністр Павел Дзік у знак згоды не адзін раз ківаў галавой на сходзе), але да паляпшэння сітуацыі не вельмі каб імкнулася. Дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь XII і XIII скліканняў Васіль Саковіч заклікаў сваіх калег па парламенту да рашучых дзеянняў: Вярхоўны Савет можа і павінен узяць у свае рукі канстытуцыйныя паўнамоцтвы па кіраванню бюджэтам, якія, паводле яго цвёрдага пераканання, аддадзены чыноўнікам фінансавага ведамства, што «гаспадараць у межах раздзелаў і параграфаў бюджэтных расходаў, парушаючы заканадаўства» (цытата з даклада).

Вось як выглядае гэта на практыцы.

Пры падрыхтоўцы Дзяржаўнага бюджэту на 1995 год Мінфін прадугледзеў у ім рэзерв сродкаў па асобных накірунках іх выдаткавання і сканцэнтраваў у раздзеле «Іншыя міністэрствы, ведамствы і арганізацыі» 2,4 трыльёна рублёў — амаль 15 працэнтаў агульнай сумы расходу бюджэту. Больш таго: больш як палова гэтых сродкаў першапачаткова планавалася па артыкулу 63 — «Расходы, якія не падзяляюцца на артыкулы». «У працэсе выканання бюджэту, — адзначыў дакладчык, — гэты рэзерв дазваляў як ураду, так і Міністэрству фінансаў вырашаць некаторыя задачы без узгаднення з Вярхоўным Саветам».

Яшчэ адзін прыклад, выяўлены кантралёрамі. У адпаведнасці з Законам «Аб бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1995 год», у мэтах канцэнтрацыі сродкаў на важнейшых аб'ектах і будоўлях, а таксама эфектыўнага выкарыстання дзяржаўных матэрыяльных рэсурсаў Кабінету Міністраў было даручана зацвердзіць адзіны пералік аб'ектаў, што фінансаваліся за кошт рэспубліканскага бюджэту. У канцы красавіка мінулага года гэты пералік быў зацверджаны, але ўжо ў пачатку жніўня ўрад зрабіў «адступленне», дазволіўшы міністэрствам і ведамствам па ўзгадненню з Мінфінам «удакладніць» спіс. А ў выніку з'явіўся зацверджаны Міністэрствам фінансаў пералік, у які трапілі новыя аб'екты, а некаторыя з ранейшых былі выключаны. У параўнанні з зацверджанымі ўказам Прэзідэнта ад 12 ліпеня 1995 года аб'ёмамі бюджэтных сродкаў на згаданыя мэты асігнаванні па стану на 1 снежня мінулага года выраслі на 138,9 мільярда рублёў.

Надзвычай уважліва прааналізавалі ў Кантрольнай палаце і праект бюджэту на сёлетні год. Зноў выяўлены шэраг парушэнняў і недахопаў; заўвагі накіраваны Вярхоўнаму Савету, Кабінету Міністраў і Мінфіну. Ці паўплывае гэта на канчатковае размеркаванне расходаў, класіфікацыю даходаў і расходаў — пакажа час.

Бюджэтнае ж заканадаўства ў нашай краіне мае вострую патрэбу ў пераглядзе і ўдасканаленні, і размова тут ідзе найперш аб распрацоўцы і прыняцці спецыяльнага закона аб бюджэтнай сістэме ў Рэспубліцы Беларусь. «Мы, — сказаў В. Саковіч, звяртаючыся да Старшыні Вярхоўнага Савета С. Шарэцкага, — павінны паставіць перад сабой задачу ўзяць пад кантроль усе асноўныя падзеі і з'явы ў бюджэтным працэсе, прымаемыя ў сувязі з гэтым рашэнні. Мы павінны штодзённа трымаць руку на пульсе бюджэту, сочачы за ўсімі змяненнямі ў яго расходнай частцы».




Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.

За апошнія гады ў наш слоўнікавы запас трывала і, мяркуючы па ўсім, даволі надоўга, увайшлі тэрміны «валютныя сродкі», «замежныя крэдыты»... Увайшлі не толькі тэрміны, а і самі сродкі і крэдыты. У фінансавай сферы яны набываюць усё большую вагу і абарачэнне. Кантроль за імі таксама павінен быць наладжаны пастаянны і надзейны: інакш, як кажуць, зойдзем мы вельмі далёка. І ў палаце гэта таксама добра разумеюць.

Летась прааналізавана выкарыстанне сродкаў, якія паступілі да нас па сямі замежных крэдытных лініях: з Германіі, Камісіі Еўрапейскай супольнасці, гандлёва-крэдытнай карпарацыі ЗША, Міжнароднага і Еўрапейскага банкаў рэканструкцыі і развіцця, Іспаніі і Расіі. А ўсяго праверана звыш 100 арганізацый, якія атрымалі крэдыты.

На жаль, толькі адзінкі прадпрыемстваў і арганізацый здолелі разумна, па-гаспадарску выкарыстаць атрыманыя фінансавыя і матэрыяльныя рэсурсы. Інвестыцыйныя крэдыты асвойваюцца нездавальняюча, а вельмі дарагое імпартнае абсталяванне прастойвае, псуецца, маральна і фізічна старэе. А разлічваецца за безгаспадарчасць і халатнасць зноў жа дзяржава. На працягу мінулага года за прадпрыемствы, гаспадаркі, ведамствы, якія атрымалі крэдыты, Беларусь выплаціла звыш 137 мільёнаў долараў. Моцна заблытана (мабыць, і гэта камусьці трэба) сістэма ўліку, фарміравання і размеркавання валютных сродкаў, адсутнічае нарматыўная і заканадаўчая база адносна атрымання замежных пазык і ліквідацыі даўгоў па іх, няма мераў адказнасці за нямэтавае і неэфектыўнае выкарыстанне рэсурсаў з-за мяжы.

І нарэшце, кантроль за банкаўскай дзейнасцю.

Ох ужо гэтыя банкі! Колькі коп'яў зламана апошнім часам вакол іх! Кантрольная палата, натуральна, не магла застацца ўбаку. Разам з Нацыянальным банкам, Міністэрствам фінансаў і іншымі органамі яна праверыла дзейнасць «Белаграпрамбанка», а ўласнымі сіламі — «Белпрамбудбанка». Акрамя гэтага пракантраляваны дзесяткі суб'ектаў гаспадарання адносна мэтавага выкарыстання крэдытных рэсурсаў, атрыманых у названых банках. Малюнак той жа — нярадасны: парушэнні, парушэнні, парушэнні...

У час пераўтварэння банкаў з дзяржаўных у акцыянерна-камерцыйныя ацэнка кошту маёмасці, якую належала выкупляць, была істотна зменшана — натуральна, у бок апошніх. Па «Белпрамбудбанку» — на 600 тысяч долараў, па «Белаграпрамбанку» — ажно на 3 мільёны. Частка ж маёмасці наогул перададзена бязвыплатна. А пазней доля прадпрыемстваў з дзяржаўнай і калектыўнай формамі ўласнасці, за кошт якіх банкі ствараліся, у статутных фондах была ў значнай меры наогул страчана. Крэдытныя рэсурсы або выкарыстоўваліся не па прызначэнню, або наогул не вярталіся. У «Белпрамбудбанку» дзесяць камерцыйных структур, атрымаўшы 11 мільёнаў долараў, выкарыставалі іх зусім не на тыя мэты, на якія бралі.

Праблемы, праблемы, праблемы... У грашова-крэдытных адносінах і эмісійнай палітыцы, рэфарміраванні дзяржаўнай уласнасці і прыватызацыйных праграмах, сферах арэндных адносінаў і абароны інтарэсаў дзяржавы ў акцыянерных таварыствах... А колькі няўвязак, нявырашаных пытанняў, пралазаў для хуткіх на руку «дзеячаў» у знешнеэканамічнай дзейнасці! Кантрольная палата асаблівую ўвагу ўдзяляе праверцы здзелак, звязаных з экспартам важнейшых відаў сыравінных рэсурсаў рэспублікі: калійных і азотных угнаенняў, ільновалакна, лесу. Многія знешнегандлёвыя аперацыі ажыццёўлены ва ўрон беларускім партнёрам і дзяржаве ў цэлым. Толькі летась устаноўлена недапаступленняў у Беларусь ад замежных суб'ектаў гаспадарання валюты і тавараў на суму звыш 3 мільёнаў долараў.

**НЕВЯЛІКІ, але надзвычай таленавіты, працаздольны і, без перабольшання, мужны калектыў утварыўся ў Кантрольнай палаце Рэспублікі Беларусь. Тут выразна бачаць свае (а калі дакладней, дык дзяржаўныя) мэты і задачы. Большасць інспекцый па абласцях і гораду Мінску працуюць настойліва і паслядоўна, цесна і плённа ўзаемадзейнічаюць з мясцовымі органамі ўлады, іншымі кантрольнымі органамі.**

**Высокая кваліфікацыя і прынцыповасць, адказнасць за справу і культура ў адносінах з тымі, каго яны кантралююць і правяраюць, — гэтыя якасці дадзены, скажам прама, далёка не кожнаму. Старшыня палаты Васіль Саковіч, яго намеснік Вячаслаў Радомскі, усе без выключэння кіраўнікі ўпраўленняў і аддзелаў, абласных інспекцый паказваюць падначаленым прыклады асабістай стойкасці, шчырасці і аб'ектыўнасці. Інакш і быць не можа: каму, калі не кантралёру, можна і трэба верыць і давяраць?**

**Яны бачаць свае вузкія месцы, нявырашаныя пытанні. Але — і гэта надзвычай важна — супрацоўнікі палаты хочуць і імкнуцца рабіць сваю справу лепш. Ім трэба дапамагчы — найперш падрыхтоўкай і стварэннем заканадаўчай базы, рэгламентацыяй правоў і абавязкаў, некаторымі іншымі справамі. І тады надзейнасць і эфектыўнасць іх работы падвоіцца, патроіцца... Рэспубліка ж ад гэтага толькі выйграе.**

**Анатоль МЯСНІКОЎ.**



ФОТАСЛОВА

Зачакалася Вас вясна,
Сцеліць кветкі для яснай пані,
Каб аднойчы на тых дыванах
Вы прызначылі мне спатканне.

Зачакалась мяне вясна,
Марна лье у бярозавік слодач,
Я на поўдзень лячу у снах
А на яве — на поўнач крочу.

Зачакалася нас вясна,
Дзе блукаем, каго шукаем?
Мы па розных ідзём берагах
І знікаем
За небакраем.

Яўген ПЯСЕЦКІ.



# БЕЛАРУСЬ ПАШЫРАЕ СВАЕ АДНОСІНЫ З ЮГАСЛАВІЯЙ

**6 сакавіка ў Мінск з трохдзённым афіцыйным візітам прыбыў прэзідэнт Саюзнай Рэспублікі Югаславіі Зоран Ліліч.**

Пасля афіцыйнай цырымоніі сустрэчы ў аэрапорце «Мінск-2» Зоран Ліліч выказаў сваё задавальненне з нагоды гэтага візіту і ўдзячнасць Беларусі за тое, што наша краіна ў свой час не далучылася да міжнародных санкцый супраць Югаславіі. Зоран Ліліч зазначыў, што ў яго ёсць шмат тэм для перагавораў з Аляксандрам Лукашэнка, што ў кіраўніцтва Беларусі і Югаславіі погляды вельмі блізкія і што ён спадзяецца на эфектыўнае развіццё двухбаковых адносін.

Аляксандр Лукашэнка ў сваю чаргу адзначыў:

— Мы ганарымся, што ў свой час не падтрымалі санкцыі і не зрабілі крокаў да блакіравання брацкай дзяржавы і брацкіх народаў Югаславіі. Цяпер мы можам спакойна глядзець у вочы прэзідэнту Лілічу... Югаслаўскі народ павінен быць упэўнены, што тут у яго ёсць сябры, і не толькі ў Беларусі... Мы будзем падтрымліваць вельмі добрыя адносіны з Югаславіяй ва ўсіх сферах дзейнасці.

Сапраўды, улічваючы такую папярэднюю палітыку Беларусі ў адносінах да Югаславіі, цяпер, калі міжнародныя санкцыі зняты, мы можам разлічваць на рэальны прарыў у двухбаковых адносінах, і асабліва ў гандлёва-эканамічнай сферы.

— Нашы адносіны мы пачынаем фактычна з нуля. Першым крокам быў візіт беларускай дэлегацыі на чале з віцэ-прэм'ерам Л. Сініцыным у Югаславію, які адбыўся ў канцы студзеня, другім сённяшні візіт З. Ліліча ў Мінск, — так пракаменціраваў «Звяздзе» тэму беларуска-югаслаўскіх адносін міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Сянько. — Нашы адносіны далей будуць інтэнсіфікавацца. Нам вельмі важна ўдзельнічаць, як і многім іншым еўрапейскім краінам, у адбудове эканомікі Югаславіі, што я параўнаў бы з агульнавядомым планам Маршала.

А аснову для прарыву ў двухбаковых адносінах павінны закласці гэты візіт З. Ліліча ў Мінск, у час якога мяркуецца падпісаць Дагавор аб дружбе і супрацоўніцтве і каля дзесятка пагадненняў аб супрацоўніцтве ў гандлёва-эканамічнай, культурнай, навуковай і іншых сферах.

Валер КАЛІНОЎСКІ.

# ПАРЛАМЕНТАРЫІ ПАЧАЛІ НАСТУПЛЕННЕ НА ЛЬГОТЫ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

Асноўная частка фінансавых паступленняў — 65 працэнтаў — будзе фарміравацца за кошт падаткаабкладання, у тым ліку мытных пошлін, падаткаў на акцызы, нерухомасць. У той жа час прадугледжваецца зніжэнне падаткаў на прыбытак, падаходнага для грамадзян, а таксама надзвычайнага.

Праектам прадугледжваецца дэфіцыт бюджэту ў памеры 2,7 працэнта УВП.

З судакладам па гэтым пытанні выступілі старшыня Кантрольнай палаты Васіль Саковіч і старшыня Камісіі па бюджэту, падатках, банках і фінансах Уладзімір Башарымаў.

Ларыса КЛЮЧНІКАВА,
Ларыса ЛАЗАР, БЕЛТА.

# РАСКРЫТА ЗАБОЙСТВА КІРАЎНІКА БЕЛМЕДБАНКА

На жаль, інфармацыя, што датычыцца таямнічага знікнення кіраўніка Белмедбанка Уладзіміра Валадзько, якую «Звязда» на мінулым тыдні давала на сваіх старонках, афіцыйна пацвердзілася. Нягледзячы на мноства версій, якія прапаноўваліся на афіцыйным і неафіцыйным узроўнях, самая непажаданая спраўдзілася: ў агароце следчай групай быў знойдзены труп Уладзіміра Валадзько, які былі закапаны злачынцамі ў лесе непадалёку ад Мінска.

Такім чынам, адна з самых загадкавых спраў за апошні час раскрыта, дзякуючы намаганням супрацоўнікаў крымінальнага вышуку, аддзела па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю і работнікаў пракуратуры.

Па нашых дадзеных, на сённяшні дзень арыштавана 5 чалавек, якія маюць дачыненне да забойства Уладзіміра Валадзько. Агульная карціна гэтага злачынства вядомая: кіраўнік Белмедбанка быў забіты ў сваім офісе 11 верасня. Да падрабязнасцей гэтай справы «Звязда» вернецца ў бліжэйшых сваіх публікацыях.

Ігар ШЧУЧЭНКА.

*СКАНДАЛ*

# «КОРПАБАНК» СУПРАЦЬ «БЕЛАРУСКАГА КРЭДЫТУ»

**Судовыя выканаўцы і прадстаўнікі «Корпабанка», якія ў аўторак з'явіліся ў офісе банка «Беларускі крэдыт», былі непрыемна здзіўлены: уся маёмасць «Беларускага крэдыту» з офіса знікла.**

Бадай, далёка не многім чытачам «Звязды» гэты факт што-небудзь скажа. Засяроджаныя на асабістых праблемах, многія сёння не звяртаюць увагі на тое, што адбываецца ў краіне ўвогуле і ў банкаўскай сферы — у прыватнасці. Аднак людзям дасведчаным і зацікаўленым вядома, што «Корпабанк», які выдаў міжбанкаўскі крэдыт «Беларускаму крэдыту» (апошнім не вернуты), выйграў судовую справу, і па рашэнню суда на маёмасць «Беларускага крэдыту» быў накладзены арышт. — Пасля рэалізацыі гэтай маёмасці грошы павінны былі пайсці на карысць пацярпеўшага боку, гэта значыць «Корпабанка».

Як аказалася, дарэмна прадстаўнікі «Корпабанка» цешылі сябе надзеяй, што ўсё вырашыцца цывілізавана: нягледзячы на афіцыйнае вырашэнне канфлікту паміж фінансавымі ўстановамі, пацярпеўшы банк застаўся з носам. Дарэчы, такога роду прэцэдэнт пакуль першы ў рэспубліцы.

Мабыць таму спробы істца, а менавіта «Корпабанка», вярнуць запазычанасць пакуль не маюць поспеху. Праўда, апошняе слова ў гэтай справе яшчэ не сказана. Яно, хутчэй за ўсё, за трэцяй уладай.

Ігар ШЧУЧЭНКА.

# ПА ПРАТАКОЛУ — СВЯТА

Пра пратакол, вядома ж, гэта жарт, бо прыём, наладжаны міністрам замежных спраў Беларусі Уладзімірам Сянько з нагоды свята жанчын, быў цёплым і шчырым — з кветкамі і шампанскім, з кампліментамі. Наладжаны прыём у гонар жанчын-журналістак — незалежна ад узросту і ступені залежнасці выдання ад асоб і абставінаў.

Журналісткам прадставілі ўсю моцную палавіну МЗС, якой выпала на гэты раз місія па наліванню лёгкіх напояў у фужэры і адпрацоўцы прыязных усмешак пры ўручэнні гваздзікоў. Што, вядома ж, вельмі карысна напярэдадні гендарных урачыстасцяў — сямейных.

Інцыдэнтаў не ўзнікла. Бакі разыходзіліся пры ўзаемнай задаволенасці.

Удзельніца.

*РЭПАРЦЁР АТРЫМАЎ ЗАДАННЕ...*

# ПАДАРЫЦЬ КАХАНАЙ РУЖЫ

**Відаць, не памылюся, калі скажу, што кветкі каханай трэба дарыць калі не кожны дзень, то як мага часцей. А ў святочны дзень 8 Сакавіка без букета руж проста не абысціся. Усе мужчыны ведаюць — пакупка кветак вельмі клопатная справа. Бо выбраць сапраўды цудоўны букет прыроднай прыгажосці для лэдзі — зусім няпростая задача.**

Кветкі лепш у Мінску набываць на Камароўцы. У асноўным мужчыны аддаюць перавагу ружам. Мінімальная цана, за якую яе можна будзе купіць у перадсвяточны дзень і на свята, складае 20 тыс. рублёў. А за 45—50 тыс. вам прапануюць такую ружу, ад якой вачэй не адвесці. Скажу па сакрэту: маладой дзяўчыне трэба дарыць хай адну, але самую прыгожую ружу, якая ў свой час закружыць вашай каханай галаву. Многім жанчынам падабаюцца гваздзікі. Каштуюць яны 12—15 тысяч. На месцы іх могуць аформіць за дадатковую плату ў прыгожы букет.

Асобным аазісам размясціліся герберы, якія трапілі да нас з Галандыі. Гэтыя кветкі падобныя на рознакаляровае сонейка: жоўтае, ружовае, чырвонае — і каштуюць 20—25 тыс. рублёў. На розны густ можна выбраць лілеі. Кветкі з такім прывабным і таямнічым пахам, а таксама бялюткія калы каштуюць не менш 50 тыс. рублёў. Значна танней можна набыць строгія цюльпаны. Сціплы букецік каштуе ўсяго 30—40 тыс.

Але я, напрыклад, падарыў бы свваёй каханай архідэі. Гэтая элітная вялікая галінка аблегчыць ваш кашалёк на 350 тыс. рублёў. Побач можна набыць і архідэю дробнакветкавую (сторчык), галінка меншая — і кошт меншы: «усяго» 150—180 тыс. «зайчыкаў».

Ёсць на рынку і экзатычная кветка. Гэта стрэліцыя. На выгіне доўгага цвёрдага сцябла, як птушкі на жэрдачцы, месцяцца ў трайным чарганні жоўтая і сіняя кветачкі.

Ваша слабая палавінка — па сутнасці мілае і пяшчотнае дзіця. Падарыце ёй акрамя кветак мяккую сімпатычную цацку. Невялікія сабачкі і мішкі, грывастыя львы і хвастатыя коцікі, а таксама тоўстыя бегемоцікі, купленыя за 48—60 тысяч, выклікаюць у яе захапленне.

Калі ваша дама вельмі сур'ёзная — падарыце ёй манікюрны набор тысяч за сто, або прыгожы гадзіннік за 150—200 тысяч рублёў. Калі ж вы — студэнт, або грошай у жыццi не мелі — падарыце сваёй жанчыне касметычны набор (гелі, крэмы, шампуні) — усяго за 30—40 тысяч, цікавую кнігу, альбо аўдыёкасету з добрай і ласкавай музыкай.

Прапанаваць у падарунак на свята жанчыне можна ўсё, што заўгодна. Але лепей сваё каханне і добры настрой дарыць нашым жанчынам кожны дзень.

Сяргей КУРКАЧ.

**Калі вы раптам трапіце ў пачатку вясны на базар у Давыд-Гарадку, невялікім мястэчку на поўдні Беларусі, і пачуеце слова «вясна», то не думайце, што мясцовыя жыхары так зацікаўлена абмяркоўваюць прыход новай пары года. У гэты перыяд слова «вясна» тут часцей мае зусім іншы змест. Так у Столінскім раёне называюць адзін з самых распаўсюджаных некалі тут заняткаў — продаж насення агародніны і кветак. Як і сам змест слова, так і занятак характэрны выключна толькі для гэтай мясцовасці, і за доўгія гады «вясна» стала своеасаблівай візітнай карткай мясцовых жыхароў. Сёння нават ніхто ўжо не скажа дакладна, калі палешукі пачалі займацца гэтай справай упершыню, бо здаецца, што так вялося спрадвеку, што любоў да кветак і да зямлі перадавалася з пакалення ў пакаленне...**

**«Толькі праімчацца на вясёлых тройках рознагалосыя калядныя святы, як у Гарадку пачынаецца «рух». У хатах збіраюцца на «вясну». Насыпаюць насенне ў невялікія мяшочкі, мяшочкамі — набіваюць вялікія крапіўныя мяхі. Абнаўляюць этыкеткі (кардонкі з намаляванымі маслам кветкамі), дастаюць патэнты на права продажу насення, усялякія даведкі, аналізы, якія пацвярджаюць, што насенне не заражана кветкавымі хваробамі...»* А пасля, нагружаныя гэтымі і рэчавымі мяхамі, нібы двужыльныя, раз'язджаюцца яны па свеце, як раней казалі, за доўгім рублём.**

# НЕЗВЫЧАЙНАЯ «ВЯСНА»



## ПАХ АПЕЛЬСІНАЎ

Памяць чалавека здольна захоўваць не толькі падзеі, якія некалі адбыліся ў яго жыцці ці сведкам якіх ён аднойчы стаў. Памяць можа захоўваць і пахі. Прычым заўсёды гэтыя пахі, як самыя моцныя ўражанні, з нечым асацыіруюцца. Вядома, самыя ўражлівыя ўспаміны — з дзяцінства, яны застаюцца на ўсё жыццё. Многія жанчыны, напрыклад, памятаюць пах першых кветак ці першых духоў, якія ім падаравалі. І, сустрэўшы недзе на вуліцы знаёмы водар, успамінаюць той адзіны вечар свайго юнацтва, калі ім упершыню далі адчуць сябе Жанчынай. Пахі, як і рэчы, — ключы да нашых успамінаў.

Мусіць, тое ж здарылася і са мной, бо заўсёды пах апельсінаў вяртае ў ранняе дзяцінства. Сярэдзіна вясны, ужо добра прыпякае сонейка, і сярод пахаў прэлай леташняй лістоты, маладога гарэзлівага ветру і акрыяўшай зямлі, якая, скінуўшы снежны кажух, зноў вольна задыхала, гэты водар здаецца экзатычным. Дзіва, ён сапраўды экзатычны, аб чым яскрава сведчаць маленькія чорныя ромбікі з надпісам «Марос» на сонечнага колеру фруктах. А з'яўляецца ён разам з бацькам, які толькі-толькі вярнуўся з «вясны». Едучы ажно з Уладзімірскай вобласці, ён купляе апельсіны знарок для мяне, бо гэта куды больш мудрэйшы гасцінец, чым звычайныя цукеркі, якія можна было купіць і ў тутэйшай краме. Гэта сёння аранжавы колер кідаецца ў вочы нават сярод сцюдзёнай зімы на кожным рагу... Мяне ж гэты водар заўсёды вяртае ў маленства. А нядаўна менавіта ён справакаваў мяне на напісанне гэтага матэрыялу.

**...Нідзе потым па Беларусі не даводзілася мне сустракаць такой увагі да сваіх агародаў, як у гарадчукоў. Да трыццаці — сарака сотак дбайна ўскопваюць спецыяльнымі рыдлёўкамі-жалязнякамі працавітыя, з абветранымі тварамі жанчыны. Роўна, як па шнурочку, утрамбоўваюць межы, бaранyюць, выбіраюць з зямлі апошняе пустазелле! Зірнеш, не апрацоўваюць зямлю — пястуюць, быццам малое дзіця, вялікімі, грубымі, патрэсканымі, як сама зямля ад спякоты, рукамі. Радуюць вока доўгія, нібы пад лінеечку, градкі, глянцавіта паблісквають тлушчам чарназёмныя межы. А праклюнуцца першыя расточкі кветак — паліваюць іх, полюць штодзень, песцяць...**

## І СМЕХ, І ГРЭХ

Калі б гэты занятак не быў прыбытковым, то наўрад ці пусціў бы ён так глыбока свае карані. Калі ў сямідзесятыя гады ў калгасе сама больш можна было зарабіць сорак — шэсцьдзесят рублёў у месяц, то на «вясне» за сезон нават «аматары» маглі зарабіць ад пяцісот да паўтары тысячы рублёў. А што тычыцца «прафесіяналаў», то пры добрым гандлі яны маглі, вобразна кажучы, вярнуцца дахаты на ўласным «аўто».

Былі часы, калі з-за гэтага пра гарадчукоў нават анекдоты хадзілі. Маўляў, яны грошы закатваюць у шкляныя слоікі ды закопваюць на ўласным агародзе. Ды, відаць, у кожным жарце ёсць доля праўды. У гады росквіту «бізнесу» гарадчукі жылі заможна. Ды і не толькі гарадчукі, бо насеннем у большай ці меншай меры займаліся жыхары амаль усіх вёсак Століншчыны.

Але надышлі горшыя часы. Нечакана з'явіліся праблемы куды больш важныя, чым неўраджай агуркоў ці летні град. З'явіліся праблемы, на якія чалавек не мог рэальна паўплываць і нават чакаць іх. Моцна ўдарыла па гарадчуках не інфляцыя. Інфляцыя ішла павольна і яны паспелі, дзякуючы нейкаму чуццю прыроджаных гандляроў, прыстроіць свае «тышчы»: калі не пабудаваць жыллё, то хоць купіць лес, аўтамабіль. Ударыла грашовая рэформа ў 1991-м. Калі з тэлеэкрана аб'явілі аб выхадзе з абароту «соценных» і «пяцідзесятак» — самых папулярных і хадавых купюр, у якіх гарадчукі захоўвалі свае зберажэнні ў панчохах (а можа, і сапраўды ў слоіках). Кажуць, што не паспела закончыцца тэлеперадача, як каля невялічкага будынку філіяла Ашчаднага банка ў цэнтры мястэчка рабілася нешта неапісальнае. Выстраілася бясконцая чарга, над якой стаяў да самай раніцы гэткі ж неапісальны лямант. «Вясеннікі», «абанкроціўшыся» ў адзін момант, кусалі локці, не маглі знайсці сабе месца, спрабавалі выратаваць хоць частку сваіх грошай. Але, тым не менш, уратаваць сітуацыю не ўдалося: у адзін момант ляснула столькі грошай, столькі часу аказалася затрачаным дарма, столькі сілы і здароўя было пакладзена на кветкі! І вось табе на.

## ПРЫЙШОЎ РЫНАК НА БАЗАР

Змены ў палітычным, эканамічным ды сацыяльным жыцці краіны не маглі не адбіцца і на размераным жыцці «вясеннікаў». Увогуле, бізнес сёння ўжо зусім не той, што быў гадоў пятнаццаць—дваццаць таму.

Так, падзеі гадоў перабудовы перабудавалі і гэтую вобласць жыцця мясцовых жыхароў. Хтосьці, моцна расчараваўшыся, махнуў рукой на «вясну», аддаўшы перавагу больш спакойнаму і бестурботнаму хатняму жыццю, праўда, працягваючы па-ранейшаму вырошчваць кветкі, але ўжо не для ўласнага гандлю, а для таго, каб прадаць на мясцовым базары.

Пазней з'яўленне новых дзяржаўных граніц не толькі назаўсёды закрыла перад гандлярамі прыбалтыйскі рэгіён, але і часткова абжытыя расійскія ды ўкраінскія прасторы. Ды і не толькі ў граніцах справа. Зараз мясцовыя ўлады любога, скажам, расійскага больш-менш значнага горада патрабуюць ад сваіх гасцей абавязковай рэгістрацыі, а то і часовай прапіскі. Таму нярэдка беларуса ў блізкім замежжы часцей могуць затрымаць тамтэйшыя праваахоўнікі за парушэнне гэтага рэжыму, чым за невыкананне правілаў гандлю. А ўсе працэдуры, звязаныя з рэгістрацыяй, як вядома, цягнуць дадатковыя фінансавыя расходы. Калі ж улічыць падзенне цэн на насенне, то можа ў выніку здарыцца, што аўчынка і вырабу не вартая. Ды і цэны на праезд сёння ў той жа папулярны Прыморскі край пацягнуць нават больш, чым можна нагандляваць за ўсю «вясну». Таму і перасталі ездзіць надта далёка за межы сваёй рэспублікі. Найбольш папулярнымі застаюцца Украіна ды еўрапейская частка Расіі. А што ўжо казаць аб тым, што рызыкуюць зараз у значна большай меры: і ў дарозе, і на базарах, дзе пануюць не законы дзяржавы, як раней, а крымінальныя дамоўленасці, дзе трэба плаціць за месца не толькі адміністрацыі рынку, але і рэкету.

А яшчэ адну прычыну (яна, мусіць, і з'яўляецца галоўнай) я зразумеў падчас апошняй паездкі на радзіму. Як ні прыкра казаць, сёння ўжо амаль няма каму займацца кветкамі. Тыя, хто так апантана завіхаўся на градах, хто з бляскам у вачах пакаваў мяхі, ужо не маюць ні сіл, ні жадання. А моладзі на вёсцы, нават у бойкім Давыд-Гарадку, які раней быў якім-ніякім а цэнтрам у гэтым забытым Богам, далёкім ад усіх шляхоў цывілізацыі ды буйных гарадоў куточку Палесся, ужо амаль не засталося: лічыце, уся з'язджае ў горад і назад вяртаецца хіба што «па свіныя плечы».

Здаецца, «бізнес» так загібеў, што нават мае памкненні знайсці сёння паўнацэннага гарадчука-«вясенніка» на мінскіх базарах закончыліся поўнай няўдачай. Толькі на Камароўцы ўдалося сустрэць бабульку з Давыд-Гарадка. Праўда, ужо гадоў дваццаць як яна там не жыве. Дзеці забралі ў сталіцу, завезлі ў Вязынку на дачу і далі магчымасць займацца любімай справай. Вось і вырошчвае бабулька на тых сотках зямлі, што ёсць каля хаты, кветкі, а потым прадае іх на базары разам з лекавымі зёлкамі, што ў свабодную часіну спакойнай старасці сабрала ў шчодрых беларускіх палях ды лясах. І наогул, робіць яна гэта не дзеля таго, каб падзарабіць у дадатак да пенсіі, колькі дзеля душэўнага спакою. Дарэчы, кветак у яе якраз аказалася надта мала, больш — агародніны. У Мінску апошнім часам купляюць тое, што можна было б пасадзіць ды потым на зуб пакласці, а прыгажосць — справа ўжо дзесятая. Таму і атрымліваецца прыказка «попыт нараджае прапанаванне» наадварот. Можа, з гэтай нагоды і няма больш палешукоў са Століншчыны ў Мінску. А можа, не сезон яшчэ?.. Праўда, бабулька раіла мне «пакруціцца» каля кіёска «Насенне», маўляў, там іх шмат, гандлююць з рук. На жаль, і там землякоў я не знайшоў.

Апошні ўдар наносяць канкурэнты. Гэта раней «вясеннікі» з Давыд-Гарадка ды прылеглых вёсак былі паўнапраўнымі ўладарамі на базарах: насеннем акрамя іх ніхто не займаўся. Сёння ж справы моцна змяніліся. Ляснуўся «жалезны» занавес, і пацякло спачатку танюсенькім ручайком, а потым амаль што ракой тое насенне, якое выкарыстоўвае ўся Еўропа. Так, прыгожыя акуратныя пакецікі з Нямеччыны ды Краіны цюльпанаў — Галандыі — сёння стварылі моцную канкурэнцыю нават тутэйшым «прафесіяналам». Гарадскі жыхар з большым задавальненнем купіць пакецік, чым лыжачку таго ж насення ў прыватніка. Няхай нават і пераплаціць удвая. Спрацоўвае пачуццё густу (увесь цывілізаваны свет даўно зразумеў важнасць упакоўкі тавару).

Праўда, і тут вынаходлівыя гарадчукі не ўпалі духам. Яшчэ гады два таму, неяк едучы са сваёй малой радзімы ў сталіцу, сустрэў свайго аднакашніка-гарадчука. Ён і расказаў мне некалькі сакрэтаў свайго бізнесу. Даўно ўжо выйшлі з моды такія папулярныя некалі лыжачкі — нязменная мерка для насення. (У якасці адступлення скажу, што лыжачкі калісьці былі асноўнай прыладай працы «вясеннікаў». Яны былі некалькіх відаў і адрозніваліся памерамі, праўда, пры аднолькавай цане: 5 ці 10 капеек.) Сёння ўсё робіцца больш цывілізавана. За вечар уся сям'я майго знаёмага склеіла некалькі соцень канверцікаў, на якіх штампам былі праστаўлены назвы насення, а потым ужо знаёмымі нам лыжачкамі гэтыя канверцікі запоўніліся. Вядома, з заморскімі markazz рознакаляровымі пакецікамі не параўнаць, але атрымліваецца амаль што па-прамысловаму, хаця і крыху «саўкова». Але на першы погляд нават не адрозніш, дзе работа прыватніка, а дзе, скажам, прадукцыя Акадэміі навук. Адным словам, усё дзеля задавальнення пакупніка. Потым гэтым насеннем можна і самому гандляваць, а можна оптам здаць у спецыялізаваны кіёск, што, дарэчы, мой знаёмы і збіраўся зрабіць.

**...І калі на вялікім базары, дзе-небудзь у Маскве, Новасібірску ці Далёкім Усходзе мясцовы жыхар купляе насенне ў гарадчука, а адышоўшы ўбок -- косіцца на яго і тут жа ў размове не праміне абазваць спекулянтам і хапугай, то не заўсёды папрок пакупніка справядлівы. Таму што калі б аднойчы летам ён пад'ехаў да квітнеючага аазіса пасярэдзіне Палесся, прачытаў назву: "Давід-Гарадок", то са здзіўленнем ускінуў бы вочы: "Ах, так! Той самы... Але колькі тут кветак! Якія тут кветкі!"**

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ,**
**калаж аўтара.**

## «ВЭСНА КРАСНА НЕ БЛІНАМІ, А СЭМЭНАМІ»

Такі вольны жартаўлівы пераказ вядомай прыказкі я пачуў ад аднаго знаёмага гарадчука. Дык сапраўды, што ж такое «вясна» ў разуменні тых, хто «ёю» займаецца?

**...Вясной кінуліся гарадчукі гандляваць. Ужо не на месяц, як раней, на два, на тры. Паехалі пасля таго, як пакапалі агароды. Выручка атрымалася добрая, асабліва ў тых, хто замест насення буракоў і памідораў напоўніў мяшочкі насеннем настурцыі, гладыёлусаў, астраў... З таго часу і пачалася ў Давыд-Гарадку кветкавая ліхаманка. А ў вялікіх і малых гарадах нават канкурэнцыя пайшла за першае месца на базары. Справу гэтую сталі называць «вясной», а саміх гандляроў — «вясеннікамі»...**

Сама «вясна» — з'ява неардынарная і нават тыя звесткі, якія я ведаю з маленства і якія я змог сабраць пасля, не могуць яе цалкам ахарактарызаваць. Вядома, што існуе першая і другая «вясна». На першую выязджалі ў канцы студзеня—пачатку лютага. Канчатковай мэтай быў поўдзень краіны: Краснадарскі край, Кубань, Малдова, Украіна. Нягледзячы на тое, што на Беларусі яшчэ нярэдка лютавалі завеі, у гэтых рэгіёнах ужо поўным ходам рыхтаваліся да пасяўных работ, а значыць, і попыт на насенне з'яўляўся менавіта ў гэты час. Па ўражаннях саміх «вясеннікаў», на першай «вясне» было і больш утульна, і больш весела, паколькі вялікую ролю іграюць сацыяльная атмасфера і мясцовыя жыхары.

Пасля першай «вясны» гандляры вярталіся на тыдзень-другі дахаты, каб папоўніць запасы тавару, крышку адпачыць, убачыць родных, а затым зноў адправіцца ў далёкі шлях. На гэты раз ужо на поўнач ад Беларусі: у Маскоўскую, Саратаўскую, Горкаўскую, Уладзімірскую вобласці, Сібір ды іншыя рэгіёны Расіі, а таксама ў Прыбалтыку. На другой «вясне» больш хадавой была агароднiна, кветкі пераважна цаніліся на поўдні. На поўначы было не толькі холадна, але і галадна: не ведаю як зараз, а раней «за Масквой» з прадуктамі было туга. Вядома, вярталіся гандляры са сваіх вандровак ужо тады, калі дома ўсё было пасеяна ды прыбрана пасля зімы.

Дарэчы, «вясеннікаў» таксама прынята дзяліць на дзве катэгорыі: «прафесіяналаў» і «аматараў». Нягледзячы на тое, што апошніх больш, яны ўсё роўна ніколі не рабілі «пагоды» і не маглі параўнаваць з тым размахам, з якім гандлявалі «прафесіяналы», што пакідалі родны дом на цэлы сезон — дватры месяцы. Нават цяжка сказаць, што было іх домам: тое месца, дзе яны кватаравалі, вагон цягніка, ці ўсё ж хата, дзе засталіся іх дзеці. Вядома, з такімі ўмовамі цяжка было мець пастаянную працу: усімі праўдамі і няпраўдамі яны ўладкоўваліся на сезонныя работы дзеля таго, каб потым перад пенсіяй быў сякі-такі стаж. «Вясна» стала іх жыццёвым заняткам, а можа і наогул — стылем жыцця. Без яе яны не ўяўлялі свайго існавання; гэта нібы наркотык.

Ужо на пачатку зімы «прафесіяналы» оптам скуплялі насенне не толькі ў суседзяў, а і на ўсіх мясцовых базарах, у суседніх вёсках, што нярэдка станавілася падставай для абвінавачанняў у спекуляцыі. Тым не менш, ім і тут даволі часта ўдавалася абвесці дзяржаву вакол пальца: знайсці льготы, зрабіцца «інвалідамі» ці «ветэранамі», купіць патэнт ці даведкі ў мясцовым альбо суседнім калгасе (гандляваць тады мелі права і калгаснікі). «Прафесіяналы» пераважна грэбавалі беларускімі базарамі і ездзілі надта далёка: іх можна было сустрэць практычна ў любым кутку былога Савецкага Саюза. Адным словам, там, дзе магло што-небудзь прарасці, дзе ў людзей вадзіліся грошы, каб купіць насенне не толькі агародніны, але і кветак, рана ці позна з'яўляўся знаёмы сілуэт нагружанага мяхамі «вясенніка». І не аднаго, бо ў далёкія «камандзіроўкі» боязна было ехаць у адзіночку: бралі ці добрых знаёмых, ці сваякоў.

Іншая справа — «аматары». Звычайна гэта людзі, якім проста спатрэбілася зарабіць «капейчыну» для таго, каб пабудаваць хату, зрабіць нейкую буйную пакупку, ажаніць сына ці выдаць дачку. У такіх людзей ёсць пастаянная праца, чым і абумоўлена іх нядоўгае знаходжанне на «вясне»: месяц-паўтара. Ды і едуць яны звычайна не надта далёка ад дому, а калі ўсё ж здараецца далёкае падарожжа, то вяртаюцца на абжытыя месцы, дзе гандлявалі не адзін раз, дзе ўжо ёсць знаёмая гаспадыня, што за ўмераную плату прадаставіць часовы дах над галавой. Пераважна гэта сяляне, якія збіралі рэчавы мяшок з насеннем за кошт сваіх запасаў, зрэдку куплялі недастаючае насенне ў суседзяў. Такімі «вясеннікамі» былі, напрыклад, мае бацькі. Бацька ездзіў на «вясну» разоў восем, ды і тое часцяком з больш вопытным у гэтых справах дзедам. А маці і таго менш была на «вясне». Але жыццё ўсё ж вымушала пакідаць хату, кідаць дзяцей на рукі не надта дбайных родзічаў і ехаць у далёкі свет.

** — У матэрыяле выкарыстаны цытаты з кнігі Уладзіміра Глушакова «Насенне».*

# ПАД АБЯРОГАМ ЧУЙНАСЦІ

## З нагоды 80-годдзя з дня вянчання Янкі Купалы і Уладзіславы Станкевіч

*Аднаго толькі сэрца мне трэба, хачу я.*
*І адной, што мяне зразумела б, душы...*

Янка КУПАЛА

У подзіўных карунках белае квецені і белае веі, у лісцесвяце лета і лістападзе восені лятуць і лятуць да маленькае планеты Зямля з бязмежнага Космасу прасветлыя яскаркі любові — душы... Мая і твая, жанчыны і мужчыны. Глядзі, прасціраюцца над светам збалелым далоні — мая і твая, жанчыны і мужчыны. І вочы дасылаюць гаючае святло ў зорную вечнасць — вочы мае і твае, жанчыны і мужчыны. І сэрцы цікаюць чуйным пульсам планеты — сэрцы маё і тваё, жанчыны і мужчыны. І валасы нашыя — прадзіва памяці сусветнае — сплятаюцца ў космы-віхры ўсясвету, каб не згубіліся, не заблудзілі я і ты, жанчына і мужчына. І ногі нашыя таропка адмерваюць палотны дарог да спаткання, да сустрэчы ўрачыстае — мае і твае, жанчыны і мужчыны. І вусны імкнуць праз час і прастору да вуснаў гарачых — вусны мае і твае, жанчыны і мужчыны. І словы люляюцца ў самых патаемных нетрахзакутках свядомасці ўсяленскае — мае і твае, жанчыны і мужчыны. І поўныя рэкі пяшчоты, замілавання, светлыні бруяць паміж дольных берагоў кахання — майго і твайго, жанчыны і мужчыны.

А над усёю Краінаю нашай крылы прачыстыя расхінула чаканне — маё і тваё, жанчыны і мужчыны. А пад велічным купалам жыцця дзве свечкі трымцяць у гарэнні-жаданні — мая і твая. І ўсе вятры, усе снягі і барвы, усе світанні і змярканні, усе дажджы, маланкі-бліскавіцы, усе вясёлкі і зоралёты — усё суладдзе ўсяленскае вітае і вядзе ў бязмежнасць нас — мяне і цябе, жанчыну і мужчыну. А мы з табою паўстаем у буднях і турботах Сутнасцю вялікаю — Каханнем. А мы з табою звяршаем чын прасветлы — любім, і ў пальцах нашых б'ецца ток спрадвечны — жыць, імкнуцца, падаць і ўзвышацца. І мы з табою, паяднаўшы рукі, ідзем не сёння, мы ідзем праз вечнасць, нам падуладны заўтрасць і мінуласць. Бо мы з табою сатканыя з любві.

Вакол вірлівы размаіты свет, вакол мора людскіх усмешак і лес людскіх развецценых рук. А сцяжына мая шукае цябе, твайго прытулку-станішча. Не разгадаць, не зразумець, чаму так сталася... Але гэтак было на свеце задоўга да нашага з табой прышэсця — пуцявіны лёсныя мкнулі адна да адной, памыляліся, разміналіся, і зноў намацвалі таемнае лучнасці балючыя крыжы. Гэтак бясконца, нястомна будзе пасля нас — шукаць будуць дзве душы слодыч і горыч паяднання. Шаптаць будуць варажбітныя словы замоваў і клятваў — на любові ўчыненае сусветнае біццё, на трывогах і думах чалавека пра чалавека, што звязаны найтрывалейшым перавяслам духоўнага прыцягнення.

Гэтак апантана рвалі павуцінне буднечы, каб азорана прабіцца да існасці-любові, птахі-душы нашыя, крывіцкія, яснабачныя — Купала, Багдановіч, Цётка, Караткевіч. Шукалі ў свеце расхрыстаным, разветраным сваю часцінку, без якое маркотна і пустэльна, з якою трывожна і думна, гаркотна і зладна. А ці знайшлі, ці паспелі напаткаць, каб адарыць святлом, зберажоным у доўгім пакутным падарожжы ад неба да зямлі? Ці кранулі трапяткім дотыкам крыла краёчак найвялікшага шчасця — імгнення любові-злітнасці, паміраньня ў каханым-дарагім чалавеку, шчаслівага, нянаскага, незямнога паміраньня, калі ўсёй істотай, счапленнем усіх атамаў і светлавых патокаў перасяляешся ў іншага, ператвараючыся ў Не-Я, набываючы незнаёмы воблік стварэння вечнага, народжанага хваляю любові?! Ці не прамінулі хвілі тае сонечнае, калі свет нараджаецца нанова ў паглядзе каханага, адзінага чалавека?



*Янка Купала і У. Ф. Луцэвіч. 1916.*

А ці дадзены наогул людзям таленавітым, што нясуць адказнасць за свой час, свой народ, сваю Краіну, яшчэ і талент любіцькахаць — спаўна аддаваць без надзеі-спадзёўкі гэтульккі ж чарпануць? Ці не завялікі пажар Паэту, Мысляру, Мастаку, чуючы боль свету, гісторыі, людства, яшчэ й пакутаваць з рухамі аднае душы, што з'явілася на дарозе зямной дзеля стрэчы з табою і смерці ў табе?!

Тысячагоддзі гавораць спавядальна, парыўна, закахана ў ручаінах паэтычных радкоў, у гронках фарбаў, у сцішэлай гармоніі скульптараў, у музычным сугуччы. Тысячагоддзі павяртаюцца ў дзень сённяшні праз каханне — пакуту і ўзлётнасць, адчай і азорнасць. Вечнасць занатаваная, упластаваная ў словы кахання пераможным праменнем пранізваюць, праточваюць наскрозь прастору і час. І знікаюць адлегласці, сумненні, забываюцца горыч і стома, растаюць крыўды і журботы, калі Ён і Яна сустракаюцца нарэшце ў гэтым бязлітасным свеце, калі знаходзяць сэрцайкі адно другое. І нанова раскрываюцца пупышкі вясны — абуджэння, адраджэння. І жыццё ўзвышае гімн любові да нябёсаў, запаўняючы светам Сусвет. Бо ў

мужчыны. І з нясмелых, няўпэўненных нотаў выкалыхваецца музыка суладдзя. Каб затрымцела жывым голасам любові мелодыя, хтосьці з нас, пасланых адно аднаму,— поўныя музыкі клавішы, а хтосьці — пяшчотныя пальцы, дотыкам якіх абуджаюцца гамы. Гэтак уладавана ў свеце: у зладнасці двух чалавекаў ёсць той, хто дае жыватворную энергію, і той, хто прымае, каб, выспеліўшы суквецце, зноў аддаць. Тады на палатне лёсу ўзыдуць каласы ўдзячнай дабрыні, што грэе дом, сям'ю, Краіну. Тады каханне аднаго паціху ўзлюляе-выпесціць пачуццё другога, самага патрэбнага, самага незаменнага, адзінага. І паразуменне душаў плыве ў свет гармоніяй — найвялікшым шчасцем паяднання, прыцягнення, узнесенага магутнай сілаю дабра, ачоленага імкненнем пазнаць сябе праз іншага, дарагога чалавека, каб адкрыць і яго існым, сапраўдным, створаным табе на шчасце і пакуту. У крананні прачыстым душаў — крыло да крыла — і нараджаецца кахання спакойная, роўная плынь, што збірае ў сабе ўсе яскаркі-кроплі і нясе ў вечнасць.

А хто, хто з нас гэткі рашучы, каб вызначыць, дзе дыхае каханне, дзе яно знямела, а куды і не зазірала, прамінуўшы парог? Хто ўмее ўтрымаць каханне на адлёце? Каму хапае мужнасці і цярплівасці выспельваць каханне, калі на ростані, на крыжы балюча падае яно ў нябыт? Каму дадзена прарочая відушчасць прадчуць каханне ў сяброўскай памкнёнасці і павазе? Хто рызыкне ісці штодзень на подзвіг — жыць з чалавекам, які цябе кахае, і ўдзячна прымаць гэты дар Божы, вынаходзячы ў сваёй душы ніціны святла і адданасці? Хто азначыць, чаму летуценім у юных марах не пра тых, з кім прызначана ісці па дарозе будзённа-турботнай і дзяліць акрайчык хлеба ды акрайчык шчасця? Бог выбірае нам спадарожніка, кіруючы думамі нашымі і шчадруючы спадзяваннямі, ці мы самі ўладары свае долі — да адкрыцця гэтае ісціны тупаем да скону, каб зноўку потым шукаць, памыляцца і нарэшце ўтаймавана змірыцца з наканаваннем ды берагчы сусветны дарунак любові.

Мудрасцю і думнасцю асвечаны злюб — чын цяжкі, нястомны, годны, варты чалавечага прызвання на зямлі. Бо мудрасць і думнасць стваральныя: побач з імі, пад іхнім ахоўным крылом не руйнуецца ніводная жыццялюбная тканка. Мудрасцю і думнасцю гадуецца-ўзрошчваецца зерне існасці — Любоў, што мацуе Ўсясвет, бароніць людства і ўсю прыроду ад варажнечы ды пустацветнасці.

Мудра і думна адольваў перавалы на зямным бальшаку наш Купала, грэючы збалелым чуйным сэрцам сваю Краіну, сваю радзіму, свой Дом, сваю сям'ю, угрунтаваных на гэтай спрадвечнай суровай праўдзе — быць апірышчам і падмогай, дарадцам і надзеяй тым, хто жыве поруч, з вераю ў непадзельнасць, нярушнасць ладу, жыве...

А Дом ёсць, запальвае агні чакання і любові, калі ў ім сходзяцца дзве пуцявіны, калі ў ім узыходзяць дзве пары вачэй, рупяцца-завіхаюцца дзве пары рук любові, у еднасці Яе і Яго, спраўджваецца вялікі сэнс прышэсцяў нашых на Зямлю.

А каханне — жар-птушка залатая — вабіць, кліча, вядзе праз ноч і смерць, ды ў рукі не даецца. Сыходзяць у самоце жыцці чалавечыя, здараецца, а пакратаць пяро чароўнага птаха не пашчасціла. І лёс не расквеціўся святарна кволым парасткам гадоў і пошукаў — галасістым немаўляткам.

Але б'ецца побач спагадлівае добрае сэрца — і не гасне першародная прага жыцця, і рукі раскрываюцца да рук, адданых і цёплых, здольных даравальна прытуліцьаберагчы. І дзве душы чуйна слухаюць адна адну, каб разам пачуць свет і знайсці ў ім сваё гняздо — адно для дваіх, жанчыны і — Яе і Яго — дзеля сябе, сваёй радасці, і ўсмешкі тых, каго гэты Дом любіць-прывеціць. Дом ёсць, калі да ягоных дзвярэй прыхінаецца змораная Радзіма, калі з ягоных вачэй-вокнаў струменіць любоў — да зямлі, да людзей, да жыцця.

Купалаў Дом быў на цёплым акрайку крывіцкае зямлі, у ветлым парку над Свіслаччу. Купалаў Дом застаўся, ёсць для ўсяе спакутнае, спеўнае, гордае Айчыны. Бо ў Доме гэтым жыла, дыхала, бунтавала, крыляла годная справа — Любоў, якая знітоўвала ўсе клетачкі Краю ў памкненні да будучыні, да зораў беларускае Волі. Купалаву Дому суджана нястомна прымаць на парозе клопат людскі пра Беларусь і прасвятляць векавечны шлях нацыі да вытоку.

Купалаў Дом быў багатым, шчодрым на гасціннасць, частавальнасць, спагаду і гойную раду, бо ў ім жылі гаспадар і гаспадыня — дзве прыродныя часцінкі, прызваныя разам, супольна раздзьмухваць святарны агонь беларускае веры і славы. Каму з нас ведама — можа, і Бог высокі не ўсё наскрозь бачыць...— як роспачна балелі душы Яе і Яго ў сумніве, роздуме, паняверцы, як чарнелі дні бязладдзя і яснелі ночы мірнасці... Але ў адчаі і горычы, у спакоі і жары раўнаважыла, сцішвала журбу Паэзія — празрыстае прадзіва еднасці, перакінутае да Купалавага Дому праз вякі на паратунак Бацькаўшчыне ды ім, двум птахам-дзецям Богавым, зведзеным пад адзін ахоўны дах.

Вільня, помная княжая Вільня пазнаёміла Янку Купалу — шляхетнага інтэлігентнага мужчыну-мысляра — з Уладкай Станкевічанкай — вясёлай, гаманкой, энергічнай дзяўчынай з роду французскага мастака Клода Манэ, народжанай у пушчанскім Краі крывічоў. У «Нашай ніве» збегліся сцяжыны. А праз некалькі гадоў у Маскве, у касцёле святых Пятра і Паўла, збылося вянчанне — наканаванне адольваць дарогу пакутную і ўзвышаную да вольнае Краіны рука да рукі, сэрца да сэрца. Гэтак распарадзіўся лёс. І лёс дзіўна вырашыў разлучыць іх таксама ў Маскве, праз 26 гадоў сумеснае хады па гасцінцы Адраджэння.

«З Масквы, з Крамля хадою думнай» Купала вяртаўся ўжо ва ўспамінах, рукапісах, кнігах — вяртаўся музейным, якога далонямі і збалелай душой нанова адкрывала Радзіме ягоная жонка — Уладзіслава Францаўна — удава. З маскоўскае гатэлевае лесвіцы адляцеў Купала да Дзядоў, каб і стуль аберагаць крэўнае гняздо, разбуранае, пакалечанае, ды не астылае — Беларусь.

А пакуль у шыбіны прасілася голле старое таполі тут, у менскім Доме, гасцёўня Купалы і Уладзіславы збірала ў дайныя прыгаршчы дыяменты беларускае думкі і песні, праўды беларускай і мроі. Пакуль, задоўга да вайны і ад'езду ў Маскву, аберажоны жаночай пяшчотай і адданасцю, Купала аберагае Краіну, вечны род ліцвінскі, плацячы бяссоннем і допытамі за спакой і жыццё аднадумцаў-паплечнікаў. Пакуль гарыць змагарная Купалава паходня, запаленая адвагай і спадчынным гонарам, атуленая ахоўным покрывам жончынай праніклівай дабрыні.

Гэтак застанецца і потым, калі сыдзе Янка-прарок, яснабачны і мужны, з бальшака зямнога, — Уладзіслава Францаўна будзе жыць, раіцца, гаварыць з ім, будзе ткаць тую вечную аснову любові-памяці, з якое прарастаюць новыя пакаленні, здольныя захаваць-зберагчы набытак папярэднікаў. Гэтак было і будзе ва ўсе вякі і эры — на чуйнасці адно да аднаго мужчыны і жанчыны гадуецца вечнасць. Разбіваюцца парыўныя хвалі кахання, утаймоўваюцца маладое гарэнне і ўзнёсласць, а шчодрая ніва духоўнае зрошчанасці-палучанасці спакойна, важка, упарта выкалыхвае ўсходы. Каб не згасалі ў бязмежнасці трапяткія свечкі падзеі, што ўспыхваюць на свеце толькі ад паяднаных нашых узлётных рук — жанчыны і мужчыны. Каб здзяйснялася найпершая і найсвяцейшая дзея на планеце — сустракаліся пуцявіны Яе і Яго дзеля суладдзя...

**Антаніна ХАТЭНКА.**



**Што зробіш, такі час, нават напярэдадні свята 8 Сакавіка даводзіцца і з жанчынамі гутарыць пра палітыку. Хаця, што грашыць на час. Хіба ж не раўня жанчыны мужчынам? Хіба ж яны, мілыя, сімпатычныя, прыгожыя, не здольны быць палітыкамі высокага кшталту? Як на мой уласны погляд, дык яны, жанчыны, могуць мужчын у любой справе апярэдзіць. Вось і дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Вольга Міхайлаўна АБРАМАВА апярэдзіла ладную кагорту мужчын у перадвыбарнай кампаніі. І ў выніку заняла дастойнае месца ў беларускім парламенце. Вашай увазе — гутарка з прадстаўніцай сацыял-дэмакратычнай фракцыі, сакратаром камісіі па міжнародных справах.**

*Вольга АБРАМАВА*

# «У ПОЎНАЙ МЕРЫ МАЕ ПОГЛЯДЫ АДПАВЯДАЮЦЬ ПОГЛЯДАМ РЫГОРА ЯЎЛІНСКАГА»

**— Вольга Міхайлаўна, усё ж такі чаму вы выбралі сацыял-дэмакратычную фракцыю? Чаму вы не з лібераламі, не з Багданкевічам?**

— Выбар — заўсёды справа індывідуальная. Я заўсёды гарой стаяла за свабоду выбару. І дзякуй Богу, што сёння ёсць з чаго выбіраць. Мноства партый, фракцый. Альтэрнатыва толькі на карысць справе. Калі канкрэтна гаварыць, то ў поўнай меры мае погляды адпавядаюць поглядам Рыгора Яўлінскага. Вось гэта будзе тое вымярэнне, якое адэкватна поўнасцю. Мне блізкія яго эканамічныя, палітычныя погляды. Праўда, калі не браць пад увагу тое, што ён расійскі палітык. Што датычыць Беларусі, то праз прызму, калі можна так сказаць, Рыгора Яўлінскага я і вызначыла прыярытэты, свае сімпатыі. Яўлінскі для мяне правы сацыял-дэмакрат альбо левы ліберал, як вам заўгодна. Таму магчымасці выбару і знаходзяцца паміж гэтымі дзвюма сіламі — сацыял-дэмакратамі і лібераламі. З сацыял-дэмакратамі мяне звязвае больш. Мне блізкія сацыяльныя пытанні як былому работніку сацыяльна-гуманітарнай сферы. Пытанні адукацыі, навукі і культуры, астатняя сацыяльная сфера — усё гэта аказалася ў дзяржавы ў загоне.

І яшчэ адзін важкі аргумент на карысць выбару. Значная частка майго электарату ў час выбарчай кампаніі — пенсіянеры. І за час працы ў акрузе я настолькі праніклася сацыяльнымі клопатамі, што пытанні чыста рыначных рэформаў адышлі ў маёй свядомасці на другі план. Я іх прызнаю, розумам вызначаю, што змены патрэбны, буду галасаваць за іх. Але калі адбываецца сутыкненне рынку і сацыяльнай абароненасці, то адчуваю, што магу больш за ўсё зрабіць у фракцыі сацыял-дэмакратаў.

Лібералы — гэта даволі моцная фракцыя. Перш за ўсё моцная эканамістамі. Мая падтрымка там не патрэбна. Больш таго, лібералы — кангламерат абсалютна аўтаномных асоб. Я думаю, што ў іх асяродку ўжо склаліся і сістэма асобасных каштоўнасцей, і ўзаемаадносіны. З сацыял-дэмакратамі мне будаваць адносіны прасцей. Яны падтрымлівалі мяне (вядома ж, маральна) у ходзе выбарчай кампаніі. Выказвалі ўпэўненасць, што мне ўдасца перамагчы. Першымі павіншавалі, калі ўжо стала вядома, што я прайшла ў парламент. І гэты чалавечы фактар таксама паўплываў на выбар.

**— І ўсё ж мне падавалася раней, што вы большы індывідуаліст у палітыцы. І, прызнацца, не чакаў такога хуткага ўваходжання спадарыні Абрамавай увогуле ў якую б там ні было фракцыю...**

— Так, я прызвычаілася адказваць сама за сябе. Я чалавек не партыйны, індывідуаліст. Але ж у сённяшнім Вярхоўным Савеце, як высветлілася з першых дзён яго працы, нерэальна быць палітыкам-адзіночкам. Калі ты сам па сабе — нічога не атрымаецца. Фракцыі поўнасцю падпарадкавалі сабе парламенцкае жыццё. Яны падзялілі сферы ўплыву, кантралююць усе абсягі дзейнасці. І як адзінка ты аказваешся адасобленым ад інфармацыі. А без інфармацыі зрабіць правільны выбар немагчыма.

**— Ці не здаецца вам, што на пэўным этапе магчыма зліццё лібералаў і сацыял-дэмакратаў у адну, апазіцыйную кансерватызму, фракцыю?**

— Гледзячы што вы разумееце пад кансерватызмам, таму што лібералы называюць сябе ліберал-кансерватарамі. Я думаю, што вось гэтае зліццё залежыць ад унутрыпалітычнай сітуацыі, ад таго, якім будзе расклад палітычных сіл унутры самога Вярхоўнага Савета і па-за яго сценамі. Ад таго, як будзе паводзіць сябе выканаўчая ўлада ў адносінах да Вярхоўнага Савета, каго будзе разглядаць у якасці свайго апанента.

Калі рознасць у поглядах (паміж уладай і парламентам) выльецца ў нешта больш вострае, з'явіцца адкрытае процістаянне, то тады якраз і магчыма аб'яднанне лібералаў і сацыял-дэмакратаў і канстытуцыіраванне сябе ў якасці адзінай дэмакратычнай групоўкі.

**— Падрабязна спыніўшыся на вашым стаўленні да фракцыйнага падзелу, мы забыліся, што гутарым напярэдадні жаночага свята. І як тут не спытацца пра ваша меркаванне адносна таго, чаму ж так мала жанчын у парламенце?**

— Аб гэтым лепш за ўсё запытацца ў саміх выбаршчыкаў... Калі гаварыць пра матывацыі, то варта згадаць трывіяльную ісціну: палітыка — гэта складаная сфера. Чытаючы лекцыі па тэхналогіі выбарчых кампаній, я неаднойчы пра гэта гаварыла. Сустракаючыся з прадстаўнікамі жаночых арганізацый, саюзаў, адкрыта ім гаварыла: «Падумайце, калі ласка, што ў час палітычнай барацьбы на выбарах вы сутыкняцеся з вельмі жорсткімі формамі барацьбы, да якіх вы, пэўна, маральна не гатовы». Палітыка — сфера канкурэнтная. І даволі часта ідзе барацьба без правілаў, калі выйгрыш кожнаму боку ўяўляецца даволі каштоўным. Арганізацыі, створаныя па прынцыпу полу, не ўяўляюць, з чым ім давядзецца сутыкнуцца.

Не спрыяе ўдзелу ў жаночай палітыцы сама грамадская атмасфера. Як палітыкаў нас, жанчын, рэдка ўспрымаюць сур'ёзна. Праяўляюць нейкую незразумелую паблажлівасць. Жанчыне, каб рэалізавацца ў палітыцы, патрэбна ў шмат разоў больш намаганняў, чым мужчыну. Гэта асаблівасці патрыярхальнага, напалову патрыярхальнага грамадства. І, вядома ж, сваю ролю адыгрываюць самі бытавыя ўмовы жыцця, калі ты вымушаны займацца і прафесіянальнымі праблемамі, і вырашаць праблемы людзей, і яшчэ бегаць па крамах, стаяць каля пліты. Наколькі ўсё гэта можна ўмясціць у амплуа адной жанчыны?

**— І ўсё ж ёсць жанчыны, якія займаюцца палітыкай. Што імі рухае, што іх штурхае ў гэтае пекла?**

— Думаю, што ёсць агульная прычына, і ёсць у кожнай прычыны індывідуальныя. Калі вы спытаецеся ў любой жанчыны, якая займаецца палітыкай, што канкрэтна штурхнула яе ў палітыку, малаверагодна, што яна расказа пра сваю дзіцячую мару стаць прэм'ер-міністрам. Цяжка ўявіць сабе такую жанчыну. Мяне, напрыклад, кінулі ў палітыку канкрэтныя прычыны...

**— І якія ж, цікава было б ведаць?**

— Раней я не цікавілася палітыкай. Да дваццаці пяці гадоў я нават газеты ў рукі не брала.

**— Прызнацца, цяжка ў гэта паверыць...**

— І тым не меней... У палітыку мяне падштурхнула прафесія. У 1989 годзе я ўпершыню на Беларусі распрацавала курс паліталогіі. Не ўсім гэта спадабалася. А калі прыйшоў жнівень 1991-га, то першымі «ведзьмакамі», на якіх накінуліся, аказаліся выкладчыкі грамадазнаўчых дысцыплін. Вось спакваля, шукаючы ісціну, я і прыйшла ў палітыку.

**— Памятаю, аднойчы вы не зусім удала адкрылі веснічкі ў палітычны агарод, калі агучылі ці то свой праект, ці то свае погляды адносна двухмоўя...**

— Ізноў жа мы вяртаемся да свабоды выбару. Якраз яна і ў супярэчнасці з ідэяй дзяржаўнага прымусу ў сферы мовы. Мне ў аднолькавай ступені несімпатычныя і тая прымусовая беларусізацыя, якая мела месца пасля жніўня 1991 года, і тое, што не прадастаўляецца права бацькам, зарыентаваным на беларускасць, вучыць сваіх дзяцей на роднай мове. Вось выказаны тады мой праект якраз і грунтаваўся на гэтай ідэі. Акрамя таго, была адзначана і неабходнасць эканамічнага спрыяння развіццю мовы карэннай нацыі. І яшчэ было падкрэслена, што ўладныя структуры павінны паказваць прыклад валодання дзвюма дзяржаўнымі мовамі.

Агледзьцеся навокал. Тое, што ў нас вандруе па старонках беларускай перыёдыкі сцвярджэнне пра аднамоўе як ледзь не найпершы грунт дзяржаўнасці, не адпавядае рэчаіснасці, калі браць пад увагу сусветны вопыт. Магу прывесці прыклады, калі нармальныя суверэнныя незалежныя краіны маюць дзве, а то і чатыры дзяржаўныя мовы. Далікатнае моўнае пытанне нельга было штурмаваць «на ўра!», нельга было працаваць з мовай так, як гэта рабілася на пачатку 1990-х гадоў.

**— Значыць, вы лічыце, што на рэферэндуме вынікі моўнага пытання адпавядаюць жыццёвай рэчаіснасці, адлюстроўваюць усенароднае меркаванне?**

— Адбылося тое, што павінна было адбыцца. Вынікі рэферэндуму — натуральная рэакцыя людзей на ўзнікшую сітуацыю. Калі ідэя выклікае масавую падтрымку людзей, то не лічыцца з гэтым проста нельга. Не лічыліся ў свой час з настроямі людзей бальшавікі. Не лічыліся любыя дыктатары, не лічыліся гвалтаўнікі.

**— Добра, дапусцім, з вамі можна пагадзіцца наконт натуральнай рэакцыі. Але ж і тое, у якім стане знаходзілася ды і працягвае знаходзіцца мова карэннай нацыі, гэта відавочна. І калі не жадаць згубы беларускай мове, то нешта ж важнае, радыкальнае трэба рабіць...**

— А чаму б не згадаць Чэхію, калі пасля распаду імперыі працэс адраджэння мовы быў расцягнуты на дзесяткі гадоў? І яшчэ адна прымета. Прыедзьце сёння ў любую з краін былой Аўстра-Венгерскай імперыі — і ў вас не будзе ніякіх праблем у кантактах, калі валодаеце нямецкай мовай. Да гэтага часу нямецкая мова лічыцца мовай навукі.

А зараз усе — і пасля вынікаў рэферэндуму асабліва — павінны падтрымаць беларускую мову, зрабіць усё магчымае для яе развіцця. І тут якраз Вярхоўны Савет павінен паказаць прыклад, павінен перайсці на беларускую мову.

І яшчэ. Важна стварыць у грамадстве — можа, за кошт якраз прыкладаў павагі? — такую атмасферу, каб людзі разгледзелі і прыгажосць мовы, і патрэбу ў ёй, патрэбу ў тым, каб лічыць сябе культурным чалавекам.

Ды сёння ўжо сфарміравалася пэўная група ў нашым грамадстве, якая не дасць загінуць мове, якая жыве клопатам пра мову. Таму і спадзяюся, што ў мовы карэннай нацыі вялікая будучыня.

**— Вольга Міхайлаўна, дазвольце некалькі пытанняў, якія маглі б вярнуць нас да тэмы жаночай палітыкі ці тэмы прысутнасці жанчыны ў палітыцы... Як блізкія ставяцца да вашай актыўнай палітычнай дзейнасці?**

— Паколькі яны паважаюць мяне, таму зараз спакойна разумеюць і маю палітычную дзейнасць. Канешне, мяне не хапае ў доме. І гэта адчуваю па тым, як мяне сустракаюць. Заўважу, што і сын, і муж акружаюць мяне ўвагай.

Вельмі падтрымліваюць мяне тата, мама, сястра. І гэта вельмі важна — калі блізкія не даюць падаць духам.

**— А ці часта дэпутата Абрамаву можна застаць каля пліты?**

— Штодня, у абед. Праўда, гатую тое, на што патрабуецца вельмі мала часу.

**— А што чытаеце, калі здараецца вольная хвіліна?**

— З вольнай хвілінай ўсё больш і больш праблем. А што да чытання, то раней вельмі шмат часу аддавала фантастыцы. Пасля Чарнобыля з'явілася нейкая «фобія» да фантастычных тэхнакратычных праектаў.

**— І ўсё ж давайце паспрабуем закончыць нашу размову на палітычнай ноце... Палітыка ёсць палітыка. І адступаць ад яе не хочацца нават і ў перадсвяточнай гутарцы. Дарэчы, ваша ўласная дэфініцыя да тэрміна «Палітыка»...**

— Палітыка — гэта сродак змяніць навакольны свет. Хаця звычайна палітыку вызначаюць як шлях да згоды. Гэта неаддзельна адно ад аднаго. Проста чалавек, палітык можа аддаваць перавагу адной ці другой каштоўнасці альбо спалучэнню іх.

**— Калі гаварыць пра ваш палітычны вопыт, то вы можаце падзяліць палітыку на мужчынскую і жаночую?**

— Адзін знаёмы расійскі палітык у канкрэтнай сітуацыі — і я цалкам з ім згодная — сказаў: «У палітыцы няма мужчын і жанчын. Ёсць толькі палітыкі». Павінны разглядацца толькі якасці, дзелавыя здольнасці палітыка. А тое, што жанчынам даводзіцца траціць больш сіл, каб даказаць сваю канкурэнтаздольнасць, гэта ёсць вынік існавання грамадства, у якім стваралі палітыку, дамінавалі ў ёй, вядома ж, мужчыны. Мужчынскую палітыку. І для мужчын. Жанчын проста не бралі ў разлік.

**— А калі гаварыць пра вялікую палітыку, то прысутнасць у ёй жанчын не змяніла яе?**

— Безумоўна, змяніла. Жанчыны — гэта выразны фактар стабілізацыі. Чаму часта якраз жанчын прызначаюць сілавымі міністрамі альбо кіраўнікамі ўрадаў? Менавіта з-за іх чыста жаночых палітычных здольнасцей утаймаваць часам раз'юшанасць, супакоіць грамадства. Хаця ёсць і іншыя прычыны.

**— Тут Беларусь дакладна адстала і ад Захаду, і ад Усходу...**

— І нават ад некаторых сваіх суседзяў. Варта згадаць спадарыню Прунскене ў Літве. На пэўным этапе яна зрабіла неверагодна шмат. Дарэчы, і сёння Казіміра Прунскене для мяне ўзор жанчыны-палітыка ці, хутчэй, — увогуле палітыка.

**— Магчыма, з часам і ў нас будуць свае Прунскене, з часам і нашы жанчыны пачнуць прымаць адказныя рашэнні, больш рашуча ўплываць на грамадскую і палітычную сітуацыю ў краіне. А зараз дазвольце павіншаваць вас са святам 8 Сакавіка. Поспехаў вам у асабістым і палітычным жыцці.**

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

## ПРА ПАЛІТЫКАЎ БЕЗ ПАЛІТЫКІ

# Надзея камуніста Васіля Новікава

**Першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Васіль Новікаў ніколі не мяняў сваіх перакананняў. Заўзятая адданасць камуністычнай ідэі абумовіла кардынальна процілеглыя меркаванні аб гэтым чалавеку: апаненты называюць «цвёрдакаменным», «правадыром шалёных», а прыхільнікі захапляюцца яго мэтанакіраванасцю, паслядоўнасцю, настойлівасцю.**



*В. М. Новікаў з унучкай Надзеяй.*

**Можна па-рознаму ставіцца да людзей, што імкнуцца абавязкова быць «наперадзе прагрэсу» і мяняюць перакананні з гэткай жа хуткасцю, як модніца — вопратку. Але не могуць не імпанаваць тыя, хто, нягледзячы на змены палітычных вятроў, застаюцца вернымі аднойчы выбранаму шляху. Шчырасць перакананняў Новікава, мне здаецца, заслугоўвае павагі — незалежна ад таго, як ставіцца да гэтых перакананняў і поглядаў.**

**Рыхтуючыся да сустрэчы з камуністам, перагартала некаторыя работы класікаў марксізму, каб быць «падкаванай». І ўсё ж наша гутарка пачалася пад уплывам першых подыхаў вясны...**

**— ВАСІЛЬ МІКАЛАЕВІЧ, якую ролю адыгрывае жанчына ў вашым жыцці?**

— Вельмі вялікую! Мы з жонкай (першай і адзінай) выхавалі дзвюх дачок. Старэйшая закончыла педінстытут, выкладчыца інфарматыкі і матэматыкі. Малодшая вучыцца на філфаку БДУ па спецыяльнасці беларуская мова і літаратура. А чацвёртага сакавіка ўсёй сям'ёй адзначылі дзень нараджэння ўнучкі — ёй 4 гады. І завуць яе Надзея. Імя — сімвал! Дарэчы, карыстаючыся магчымасцю, хачу павіншаваць усіх жанчын са святам!

**— Дзе вы пазнаёміліся са сваёй будучай жонкай?**

— Яшчэ ў школе.

**— У адным класе вучыліся?**

— Не, я заканчваў вячэрнюю школу рабочай моладзі, а яна вучылася ў дзённай. Пажаніліся ўжо пасля арміі.

**— Вы з сялян?**

— З чыгуначнікаў, нарадзіўся на паўстанку, што пад Оршай. Тутэйшы! (Смяецца.)

**— Самае моцнае ўражанне дзяцінства?**

— У нас была вялікая сям'я — сапраўдная футбольная каманда: я — адзінаццаты, апошні сын. І ўсе ў нас працавалі. Гадоў з пяці ўжо пасвіў кароў. Юнаком працаваў у саўгасе.

**— Як жонка адносіцца да вашай адданасці камуністычнай ідэі?**

— Яна адносіцца да мяне заўсёды аднолькава, незалежна ад таго, што папулярна. Не буду бравіраваць, яна мяне ведае як цэльную, прыстойную натуру, якая ні ў якіх сітуацыях не здрадзіць ні сваёй справе, ні перакананням.

**— Вы тыран у сям'і? А можа, жонка вамі кіруе?**

— У нас ніхто не кіруе — проста жывём, кожны займаецца сваёй справай... Хаця першая скрыпка, канешне, у мужа. Жонка часам гаворыць: іншыя мужыкі закатваюць, мыюць, усё па дому робяць... Добра, я займуся гэтым — але забярыце ў мяне функцыі вядучага!

**— У той час, калі рэжысёр Марк Захараў паліў перад тэлекамерай партбілет, калі слова «камунізм» стала амаль нецэнзурным і быць камуністам было небяспечна — жонка не баялася, што вас дзе-небудзь могуць добра прыціснуць да сцяны?**

— Чыста па-чалавечы баялася, але я заўсёды гавару, што нікога і нічога не баюся. І не таму, што такі смелы... Калі ўсё прададзена і здраджана, развалена, баяцца ўжо няма чаго. Жонка часам пытаецца: «Ты пакажы мне той народ, за які так выкладваешся — дзеля чаго?» Крызіс грамадства давёў людзей да такога стану, што адзіночкам і нават групам цяжка вывесці краіну з крутога віражу...

**— Яшчэ ў пачатку стагоддзя выдатная паэтэса Алаіза Пашкевіч (Цётка) ставіла пытанне, актуальнае і зараз: «Нейка пекла, нейка каша! А дзе ж шчасце, братцы, наша?»**

— Шчасце ў тым, каб заставацца чалавекам у любых абставінах, без кан'юнктурных хістанняў. Вось просты прыклад. Калі я быў першым сакратаром у Чэрыкаўскім раёне Магілёўскай вобласці (радыяцыйны раён, пасля 1990 г. палова насельніцтва была адселена), гэта ж на той час — цар, бог і воінскі начальнік. Жонка працавала кадравіком у РАПА, але на лён, на буракі — уперад... Я заўсёды выкладваўся на рабоце. Увогуле, гэта глыбока няшчасныя людзі, якія не належаць ні сабе, ні сям'і, а служаць справе.

**— Вы няшчасны чалавек?**

— Глыбока няшчасны! Калі першы сакратар Магілёўскага абкома Ляонаў (цяперашні міністр сельскай гаспадаркі і харчавання) накіроўваў мяне ў Чэрыкаў, расказаў: раён развалілі, каровы дояцца, як козы, ні мяса, ні зерня... «Васіль Севасцьянавіч, гэта гора — прымаць раён». Ён здзівіўся. Тады патлумачыў: калі б мне патрэбны былі пасады — іншая справа. А працаваць, жыць дзеля людзей — значыць «зарабляць» асабістае няшчасце.

**— Прабачце, калі ласка, але мне прыгадваецца фільм «Іван Васільевіч мяняе прафесію» — калі герой Якаўлева, пераўвасобіўшыся ў Івана Грознага і ўспомніўшы, як звычайна гавораць кіраўнікі, вымаўляе: «Як нам, царам, цяжка жывецца, усё працуем і працуем, без выхадных і водпускаў...» Васіль Мікалаевіч, можа, лепш кінуць усё — навошта ж рабіць сябе няшчасным?**

— Я спавядаю і культывую наступны прынцып: кожны павінен рабіць тое, дзеля чаго прызначаны, што ўмее, можа, што даручана... Калі пераехаў у Чэрыкаў і пачуў, што па рэкамендацыях вучоных-аграрнікаў кароў дояць два разы на дзень, быў вельмі здзіўлены: з дзяцінства ведаў, што даіць трэба 3 разы, а яшчэ — добра карміць, паіць і забяспечваць элементарны парадак на фермах. Нездарма ў Індыі карова — свяшчэнная жывёліна!.. Я прыняў раён, калі надойвалі па 1912 літраў малака, а праз 4 гады было ўжо 3365 літраў — «козы» сталі каровамі! Не зусім, праўда, свяшчэннымі... Многія здзіўляліся: філосаф пачаў кароў даіць! Мая задача была: згуртаваць людзей, паставіць ясную мэту, забяспечыць добрыя ўмовы працы, выпрацаваць перспектыву развіцця раёна. А дзяліць хамуты, цвікі, дошкі, камбікармы — гэта рабілі тыя, каму належала па пасадзе.

**— Вы часта называеце сябе філосафам...**

— Не выпадкова: я вывучаў філасофію, навуку ўсіх навук. І вывучыў, лічу, няблага: я, сельскі хлапец, закончыў філасофскі факультэт Ленінградскага універсітэта з адзнакай. Спалучэнне тэорыі з веданнем глыбінь жыцця дае магчымасць меркаваць аб усім узважана. У мяне трывалы ўнутраны стрыжань — купіць мяне нельга. Што грошы? Пустэча! Ад сябе ж не збяжыш, за ўсё ў гэтым жыцці прыйдзецца плаціць — калі не самому, дык нашчадкам.

**— Каму з філосафаў аддаяце перавагу?**

— Здымаю капялюш перад вялікім Гегелем, бацькам дыялектычнай сістэмы. Але ён разгортвае дыялектыку Абсалютнага Духу, а марксізм усё паставіў на матэрыялістычную глебу.

**— Вашы дзеці хрышчоныя?**

— Так.

**— ???**

— Старэйшую ахрысцілі, калі я вучыўся ва універсітэце, адсутнічаў. А малодшая пахрысцілася нядаўна — па ўласным жаданні.

**— А вы сам хрышчоны?**

— Абавязкова! Мне было 6 месяцаў, ніяк не мог супраціўляцца! Гавораць, праўда, што моцна крычаў. (Смяецца.)

**— Напэўна, прадчувалі, што будзеце камуністам?**

— Атэістам...

**— Магчыма, менавіта ў рэлігіі выратаванне ад бездухоўнасці грамадства?**

— Не ў гэтым справа!

**— Але ж камуністычная ідэя ў многім базіруецца на хрысціянскіх запаведзях?**

— Яны пераклікаюцца: 10 запаведзяў хрысціянства і 12 — Маральнага кодэкса будаўніка камунізму... Лічу, што вера — рэч вельмі індывідуальная, і лезці камусьці ў душу — тупасць і хамства!

**— А як жа нашы кіраўнікі са свечкамі перад камерамі на рэлігійных святах?**

— Гэта палітычнае шоу! Стаўлюся да гэтага з пагардай — як да палітычных ігракоў... Калі мне, як першаму намесніку старшыні ВС, давядзецца.., буду прысутнічаць па роду службы.

**— Са свечкай усё роўна стаяць будзеце?**

— Ніколі ў жыцці! Я прыму ўдзел у мерапрыемстве, але навошта крывадушнічаць? Вера — ад перакананняў, не заснаваных на ведах. Я шкадую людзей: у іх не хапае ведаў. З другога боку, чалавек павінен верыць хоць ува што. Самае страшнае — калі чалавек не верыць ні ўва што, або верыць у «залатога цяльца».

**— Васіль Мікалаевіч, дзе вы працавалі пасля путчу, як на жыццё зараблялі?**

— Я не прызнаю ніякіх путчаў! Гэта было палітычнае шоу, шабаш нягоднікаў сусветнага пашыбу, якія здрадзілі — давайце называць рэчы сваімі імёнамі. Калі гэта адбылося, я займаўся ўладкаваннем сваіх таварышаў па ЦК (у той час я быў выконваючым абавязкі загадчыка аргаддзела) — і адным з апошніх пакінуў карабель. Уладкаваўся намеснікам загадчыка аддзела арганізацыйнай і кадравай работы Мінаблвыканкома, там працаваў да лютага 1994 года. Потым — вызваленым сакратаром ЦК ПКБ.

**— Вы існавалі на ўзносы ці... схаваныя партыйныя грошы, якія, па чутках, сплылі ў невядомым накірунку?**

— Наш магутны вызвалены апарат ЦК: я, загадчык аргаддзела і бухгалтар на палову стаўкі. Ніякіх тайных грошай — узносы і дапамога добрых людзей.

**— Колькі членаў у ПКБ?**

— Больш як 25 тысяч...

**— А было?**

— Гадоў 10 таму даходзіла і да 600 тысяч.

**— Кампартыя стала амаль што парламенцкай партыяй. Вы не баіцеся пашырэння яе радоў? Ленін калісьці папярэджваў, што «да ўрадавай партыі непазбежна імкнуцца прымазацца кар'ерысты і прайдзісветы»?**

— Да нас ідзе шмат людзей, якія раней і блізка не былі ля партыі. Ёсць прыблудныя... Імкнёмся прымаць у партыю тых, хто ідзе за ідэю служэння народу, а не за пасаду — хаця гарантый, што памкненні шчырыя, ніхто даць не можа...

**— У часы КПСС было модным гаварыць: «Наша мэта — камунізм». Зараз у камуністаў мэта такая ж?**

— Наша мэта — камунізм, калі гаварыць словамі заснавальнікаў марксізму, якія былі буйнымі вучонымі, рэвалюцыянерамі. Карл Маркс, калі гаварыў аб камунізме, меў на ўвазе рух ад горшага стану грамадства да лепшага.

**— Значыць, камунізм — паняцце абстрактнае?**

— Гэта не догма, а ідэал, да якога імкнецца чалавецтва. Камунізм — грамадства сацыяльнай справядлівасці. Ажыццяўленне вялікага прынцыпу — «ад кожнага — па здольнасцях, кожнаму — па патрэбнасцях!»

**— Мы ведаем, што такое ўраўнілаўка...**

— Роўнасць і ўраўнілаўка — зусім розныя рэчы, хаця корань у гэтых словах аднолькавы. Я заўсёды быў за тое, каб эканоміка была шматукладнай — але каб усё гэта было натуральным, нармальным працэсам, як пры Леніне.

**— Вам не хацелася б, каб плошчу Незалежнасці перайменавалі зноў у плошчу Леніна?**

— Яна б ад гэтага нічога не страціла: Ленін — адзін з геніяў чалавецтва, і яшчэ не адна плошча будзе названа яго імем.

**— Ваша фракцыя не будзе ўносіць на разгляд падобныя прапановы?**

— Наша фракцыя будзе займацца больш празаічнымі справамі, каб выйсці з крызісу, з гэтага дзікунства. А потым можна падумаць і аб плошчах.

**— Вы займаеце высокую пасаду — магчыма, больш правільна было б кіраўніку такога ўзроўню быць беспартыйным?**

— Можна выйсці з партыі ці прыпыніць сваё членства... Але прыпыніць перакананні і думкі нельга — дык навошта гэтыя фарсы-спектаклі? Гэта мне не падыходзіць!

**— Вам не шкада, што ў Вярхоўным Савеце няма прадстаўнікоў БНФ?**

— Я зыходжу з рэалій жыцця. Лідэры БНФ не пыталіся ў народа, калі узурпіравалі назву «народны», эксплуатавалі нацыянальную ідэю, — вось і атрымалі дзірку ад абаранка на выбарах... Я езджу па Беларусі — бальшавікі старой загартоўкі часта пытаюцца: «Ці прымеце меры, каб забараніць БНФ?» Не, інакш лепшай рэкламы і лепшай нагоды для адраджэння БНФ і не прыдумаеш... Калі б фронт быў народным, народ бы не адмовіў яму так аднагалосна. Тады, магчыма, пара-тройка прадстаўнікоў БНФ і была б у Вярхоўным Савеце.

**— Як вы ставіцеся да фільма «Нянавісць: дзеці хлусні»?**

— Цалкам яго не глядзеў, толькі ўрыўкамі... Дакументальныя кадры не выкінеш — ні з хронікі, ні з жыцця. А мантаж — на сумленні стваральнікаў фільма... На нянавісці далёка не заедзеш, а БНФ спавядаў нянавісць — памятаю, як яны кідалі калючы дрот ля помніка Леніну. Яны, сеючы вецер, пажалі буру. Заслуга Прэзідэнта ў тым, што ён разагнаў БНФ ягонымі ж метадамі, толькі яшчэ больш жорсткімі. Як гаворыцца, «против лома нет приема, если нет другого лома».

**— Ваша стаўленне да змены сімволікі?**

— Калі чую ўсе абурэнні: ай-ай-ай, адмянілі нацыянальную сімволіку, звычайна адказваю так — як укацілі сімволіку, так і выкацілі. Платонаў, тагачасны прэзідэнт АН Беларусі, учыніў подласць: ніхто не рабіў ніякай экспертызы «паласатага» сцяга і «Пагоні», усё падтасавана, хтосьці галасаваў за тых, каго не было... Не трэба крыўдаваць: нуль-нуль, баявая нічыя!

Калі мы вырашылі будаваць дэмакратычнае грамадства, калі таталітарызм надакучыў — трэба было аб'явіць конкурс... Магчыма, тады ў сімволіцы і зубр знайшоў бы адлюстраванне. Ну, нельга ж усё рабіць пад эмоцыі, пад палітычную барацьбу!

**— У Маркса, Энгельса, Леніна неаднаразова сустракаецца выраз «парламенцкі крэцінізм»: гэта хвароба, ахвяры якой перакананы, што ўвесь свет «вызначаецца большасцю галасоў менавіта той прадстаўнічай установы, якая ўдастоілася гонару мець іх у якасці сваіх членаў». У Беларусі не будзе парламенцкага крэцінізму?**

— Для гэтага трэба дамовіцца канкрэтна, што мы будзем будаваць, куды пойдзем. Калі ВС вызначае ўнутраную і знешнюю палітыку дзяржавы — значыць трэба стварыць адпаведную камісію — хай яе ўзначаліць Прэзідэнт, а кіраўнік Вярхоўнага Савета будзе адным з намеснікаў. Але ж трэба да чагосьці прыйсці! Не вырашым — пустая будзе работа. Жыццё ідзе па сваіх законах, адно — у Авальнай зале і другое — на вытворчасці, на вуліцы, у магазінах... Максімальна ўвасобіць спадзяванні народа — наша задача. Таму трэба вызначыцца, што мы будзем рабіць — далей развальваць краіну, або... ёсць толькі 2 шляхі развіцця грамадства: капіталізм і сацыялізм, трэцяга не дадзена... А ў нас адзін у лес, другі па дровы — пудраць мазгі народу, а жыццё ўсё пагаршаецца...

**— Хоць калі-небудзь вызначацца дарагія нашы галінкі ўладнага дрэва?**

— Вярхоўны Савет гатовы да супрацоўніцтва, але... Вы ж бачыце, як атрымліваецца нават у дробязях: ВС абмяркоўвае, галасуе, але раптам выходзіць указ Прэзідэнта аб прызначэнні Тамары Віннікавай старшынёй Нацбанка. У Канстытуцыі запісана: Вярхоўны Савет выбірае, а Прэзідэнт толькі прадстаўляе...

**— Гавораць, менавіта вы дапамагалі пісаць знакаміты антыкарупцыйны даклад, з якім выступіў Лукашэнка і заваяваў рэпутацыю народнага заступніка?**

— Была справа! Аляксандр Рыгоравіч ведаў мяне — калісьці прыязджаў у Чэрыкаўскі раён у саставе Шклоўскай дэлегацыі вопыт пераймаць... Матэрыялаў у камісіі мелася вельмі шмат, таму выбудаваць стройную канцэпцыю было няпроста. Лукашэнка папрасіў дапамагчы. Працаваў у вольны ад работы час: суботы-нядзелі, вечары. На маю думку, даклад быў падрыхтаваны змястоўны, канцэптуальны.

**— Як жа атрымалася, на першым этапе — таварышы, аднадумцы, а зараз выступае Аляксандр Рыгоравіч — камуністы ледзь не ў апазіцыі да Прэзідэнта?**

— Мы ж дамовіліся гутарыць без палітыкі!

**— Можаце не адказваць.**

— Не, чаму ж... Вазьміце перадвыбарную праграму Прэзідэнта і канкрэтныя дзеянні — відавочная разбежка паміж словамі і справамі. Адсюль — і крыніцы супярэчнасці.

**— Ваша любімая газета?**

— Я выпісваю палярныя газеты: «Товарищ» — «Свабода» і г. д. Многія газеты чытаю, але не сказаць, каб ад якой-небудзь быў у захапленні.

**— Вы ўмееце піць? Напрыклад, як герой Сяргея Бандарчука ў фільме «Лёс чалавека»— тры шклянкі не закусваючы?**

— Калі трэба, магу і больш. Аднак калі ўзніклі праблемы са страўнікам — некалькі гадоў і не нюхаў. Як салдат: магу капаць, а магу і не капаць.

**— Умееце гаварыць тосты?**

— Часам даводзіцца... Моська прыйшла да Слана, наліла па кілішку добрага віна: «Слон, даруй, што так доўга гаўкала на цябе — час быў такі». Давайце не прыпадабняцца да Моські!

**— У вас нават тост ідэйны!.. А якая любімая страва?**

— Бульба з салам ці селядцом. У канцы рабочага дня, ад'язджаючы дахаты, заўсёды званю жонцы: «Стаў бульбу!»

**— Якія песні вы спяваеце?**

— О!.. Калі б я заспяваў — вы б зарыдалі! У арміі служыў — у ансамблі быў. Працаваў у будатрадзе — цэлымі днямі, махаючы сякерай, песні Высоцкага спяваў, без перадышкі. І не толькі Высоцкага. Калісьці добра іграў на гармоніку — і вальс «Пад небам Парыжа», і «Каліну красную»...

**— Напрыканцы гутаркі хацелася б задаць некалькі пытанняў з анкеты вашага ідэйнага натхняльніка Карла Маркса. Якасць, якую вы больш за ўсё цэніце ў людзях?**

— Прыстойнасць.

**— У мужчынах, у жанчынах?**

— У мужчынах — розум, у жанчынах — абаяльнасць.

**— Недахоп, які вы можаце дараваць?**

— Легкадумнасць.

**— Любімае выслоўе?**

— Словы Шатабрыяна, якія часта паўтараў Ленін: «Кто ясно мыслит, тот ясно излагает».

**— Любімая кветка?**

— Васілёк.

**— Любімы колер?**

— Сіні — колер неба.

**— Жыццёвы дэвіз?**

— Праз церні — да зорак.

**— Любімы герой?**

— Камуніст Васіль Губанаў з аднайменнай кінастужкі Габрыловіча. Цёзка мой, таксама за народ змагаўся...

**Гутарыла Таццяна ПАДАЛЯК.**
**Фота Мікалая АМЕЛЬЧАНКІ.**

# ЖАНОЧЫЯ ШЛЯХІ

**Жанчыны не заўсёды роўныя мужчынам на рынку працы: у час эканамічнага крызісу іх часцей звальняюць, іх больш закранае беспрацоўе, а жаночая работа аплачваецца ніжэй. За цудоўным фасадам — поспех некалькіх жанчын у прэсе або дзелавым свеце — хаваецца менш бліскучая рэальнасць. А Францыя ж належыць да ліку еўрапейскіх краін з найбольшай колькасцю працуючых жанчын.**

У іх ёсць усё для поспеху: дыпломы, кампетэнтнасць, пунктуальнасць. Іх віна ў тым, што яны — жанчыны. І рэдка хто з іх падымаецца на самую высокую іерархічную прыступку. На невялікую колькасць удалых прыкладаў, вакол якіх часопісы ўзнімаюць вялікі шум, колькі жанчын, што з энтузіязмам сталі на працоўны шлях і закончылі яго ў поўным адчаі? Мацярынства, стрэс, недастатковы давер з боку мужчын — ім да гэтага часу цяжка знайсці сваё месца на прадпрыемстве. Чым вышэй узнімаешся па іерархічнай лесвіцы, тым іх менш. Пры роўнай кампетэнцыі і аднолькавых дыпломах з мужчынамі жанчыны пераважна займаюцца выхаваннем дзяцей, што іх і звязвае. Рэдкія тыя прадпрыемствы, на якіх улічваюць гэтыя асаблівасці і прадастаўляюць роўныя шанцы і мужчынам, і жанчынам. Каб дасягнуць іерархічнай вяршыні, яны павінны згадзіцца весці такі ж лад жыцця, што і мужчыны, мець тыя ж каштоўнасці і будаваць сваю кар'еру па такому ж плану.

Крызіс занятасці пагаршае становішча; жанчыны першыя ў спісе звальняемых. Даходзіць да таго, што некаторыя ў Францыі і ў іншых краінах, спасылаючыся на беспрацоўе, заахвочваюць вяртанне жанчын да хатняга ачага. Праўда, з наступленнем крызісу на прадпрыемствах жанчыны сталі па-іншаму глядзець на сваё прафесіянальнае жыццё. «Супержанчыну», гатовую ахвяраваць асабістым жыццём дзеля прафесіянальнага поспеху, змяніла геданістка, якая хоча, каб яе работа была цікавай, а сямейнае жыццё — шчаслівым.

Сёння работа стала нормай: чатыры жанчыны з пяці ва ўзросце ад 25 да 30 гадоў працуюць. Францыя, Данія і Вялікабрытанія адносяцца да тых еўрапейскіх краін, дзе самая вялікая колькасць працуючых жанчын (46 працэнтаў). Хоць жанчыны атрымалі права працаваць, яны яшчэ не дабіліся роўнай аплаты працы. Беспрацоўе больш закранае жанчын (13 працэнтаў), чым мужчын (9 працэнтаў). Іх зарплата ніжэйшая за мужчынскую пры роўных кампетэнцыі і стажы (у сярэднім на 32 працэнты, і



на 42 працэнты — для кіруючага саставу і кіраўнікоў прадпрыемстваў). Маладая жанчына нават маючы дыплом вышэйшай школы (у Францыі вышэйшыя навучальныя ўстановы з вялікім конкурсам пры паступленні), даўжэй будзе шукаць першую работу. Нягледзячы на тое, што 1. 400. 000 жанчын — маці-адзіночкі, многія кіраўнікі прадпрыемстваў лічаць, што жаночая зарплата — толькі другая, дадатковая ў сям'і.

Пры наяўнасці аднолькавых дыпломаў кар'еры жаночыя адрозніваюцца ад мужчынскіх, яны становяцца кіраўнікамі толькі ў пэўных галінах: здароўе, адукацыя, прэса, рэклама, тэкстыльная прамысловасць, адзенне, інфарматыка, турызм, права. У прамысловасці 1/3 штату складаюць жанчыны, аднак усяго толькі 19 працэнтаў займаюць кіруючыя пасады, і магчымасці іх прасоўвання па службе даволі абмежаваныя: адміністратар або начальнік аддзела кадраў, кіраўнік юрыдычнага аддзела або аддзела па сувязях. Нават сярод жанчын, якія заканчваюць самыя прэстыжныя вышэйшыя навучальныя ўстановы, нямногія дабіваюцца апаратыўных пасад і, такім чынам, вышэйшай улады. Атрымліваецца, што вышэйшыя эшалоны буйных фірмаў проста ігнаруюць жанчын, як толькі размова заходзіць аб ключавых пасадах. Нават фірма L'Areal, царыца касметычных вырабаў, галоўным акцыянерам якой з'яўляецца жанчына, Ліліян Бетэнкур, не змагла прапанаваць ні адной жанчыне крэсла ў кіруючым саставе.

Спасылаючыся на тое, што жанчыны пачалі паступаць у такія прэстыжныя вышэйшыя школы, як Політэхнічная (X) або Нацыянальная школа адміністрацыі (ENA), толькі з 70-х гадоў, кіраўнікі прадпрыемстваў так тлумачаць адсутнасць жанчын у вышэйшых эшалонах улады: ім засталося яшчэ каля дваццаці гадоў прафесіянальнай дзейнасці, каб праявіць сябе. Да таго ж жанчыны на кіруючых пасадах, якія не дасягнулі пенсіённага ўзросту, — выключэнне, і іх хуткае прасоўванне па службе лічыцца падазроным.

Хоць ніхто не сумняваецца ў іх інтуіцыі, арганізацыйных здольнасцях, пунктуальнасці, а некаторыя ацанілі іх сціпласць, да гэтага часу існуюць пагардлівыя адносіны да жанчын як з боку калег-мужчын, так і з боку калег-жанчын. Жаночыя калектывы часам не пераносяць кіраўнікоў у спадніцах. І напляваць на кампетэнтнасць! Многія жанчыны, у ліку якіх Анет Ру, прэзідэнт суднабудаўнічай фірмы Бенета, і Жаклін Бейту, былы дырэктар газеты «Рэха» (Les Echos), усё ж даказалі, што яны здольны кіраваць прадпрыемствам і жанчынамі!

Асноўным ворагам жанчын, як відаць, застаецца іх выхаванне. Дзяўчынкам і да сённяшняга дня прывіваецца думка аб тым, што жанчына займае другое месца ў сям'і. Нягледзячы на тое, што яны вучацца лепш за хлопчыкаў (лічбы — гэтаму доказ), дзяўчынкі ўжо ў школе менш славалюбівыя. Выйшаўшы замуж, яны ахвотней за мужчын згаджаюцца ахвяраваць кар'ерай дзеля дзяцей.

**Вільма ЛЕВІ.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Вучоныя-псіхолагі Бернард Асбел і Кэрэн Уін некалькі гадоў прысвяцілі вывучэнню розных аспектаў узаемаадносінаў людзей, якія звязаны шлюбнымі вузамі. На гэтай аснове яны напісалі кнігу «Што яны ведаюць пра вас», у якой падзяліліся шэрагам цікавых назіранняў. Так, яны прыйшлі да высновы, што частата сексуальных кантактаў толькі ў малой ступені або зусім не адбіваецца на задавальненні мужа і жонкі сваім саюзам. І што самыя моцныя шлюбы, асабліва з пункту погляду жанчын, тыя, што заключаюцца пасля 30 гадоў.

Прыйшлі яны і да такой высновы: чалавек, які ніколі не быў жанаты, мае ў сем разоў больш шанцаў, чым жанаты, аказацца ў псіхіятрычнай бальніцы.

**ІТАР-ТАСС**

*Мао Сіньюй, унук Мао Цзэдуна, адразу стаў самым папулярным спеваком і паэтам Паднябеснай дзякуючы выхаду ў свет яго аўдыёкасеты з песнямі ў гонар свайго дзеда. Спеў Сіньюй іх сам — па-аматарску, але вельмі душэўна, і дзве балады напісаў сам.*

*Маленькаму Сіньюю і яго бацькам часта бачыцца з дзедам не дазвалялася, нават на яго пахаванні яны прысутнічалі як звычайныя грамадзяне. 25-гадовы ўнук Мао Цзэдуна — аспірант сталічнага Народнага універсітэта. Паспеў ён ужо адвучыцца ў Вышэйшай партыйнай школе, дзе спецыялізаваўся на гісторыі КПК.*

*Ад свайго вялікага дзеда Мао Сіньюй атрымаў у спадчыну прыхільнасць да ежы. Пры росце 170 сантыметраў ён важыць больш за 100 кілаграмаў.*

**«Тайм»**

Ці то звар'яцела жыхарка малдаўскага горада Унгены, ці то яна пачала замярзаць у халоднай кватэры — гэта застанецца тайнай. А рашылася яна на крок бессэнсоўны: склала пасярод пакоя свае рэчы і падпаліла іх. Суседзі, якія адчулі пах дыму, выклікалі пажарную каманду, але было позна. Пенсіянерка да моманту яе прыбыцця была ўжо мёртвая, атруціўшыся чадным газам.

**ВЕТА.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**АД ШМАТЛІКІХ РАН ПАМЁР САЛМАН РАДУЕЎ**

Учора апоўдні баевікі атакавалі яшчэ 4 блок-пасты федэральных сіл у Грозным. Камандуючы федэральнай групоўкай Вячаслаў Ціхаміраў адзначыў, што вайскоўцы ўдзень праводзілі разведку і аналізавалі становішча, паколькі інфармацыя аб падзеях у горадзе паступала супярэчлівая. У ноч з аўторка на сераду ад шматлікіх ран памёр чачэнскі тэрарыст Салман Радуеў.

**РЭФОРМЫ АБО ІХ ІМІТАЦЫЯ?**

Лідэр руху «Яблык» Рыгор Яўлінскі ўпэўнены, што расіяне не хочуць прэзідэнта-камуніста, але не могуць пагадзіцца з тым, каб усё заставалася як ёсць. На яго думку, большасць не за Зюганава, але і не за Ельцына. Яўлінскі заявіў, што Расіі патрэбна не проста карэкціроўка, а змена курсу, а яшчэ дакладней — «рэальнае рэфарматарства, а не імітацыя рэформаў».

**НЕ ТРЭБА ЎСПРЫМАЦЬ ПАШЫРЭННЕ НАТО ЯК ПАГРОЗУ?**

З заклікам да «расійскіх сяброў» не ўспрымаць прыняцце ў шэрагі НАТО дэмакратычных дзяржаў Усходняй Еўропы як пагрозу звярнуўся федэральны прэзідэнт ФРГ Раман Хэрцаг. «Галоўнае, — адзначыў ён, — каб новыя члены НАТО валодалі трывалай дэмакратыяй. Каб яны вярнуліся да прынцыпаў адкрытага грамадства, свабоднай эканомікі і гуманістычнай культуры».

**НІШТО НЕ ВАРТА СЛЁЗ ДЗІЦЯЦІ...**

Генеральны сакратар ААН заклікаў міжнароднае супольніцтва аб'яднаць намаганні ў барацьбе з тэрарызмам ва ўсіх яго праявах. У заяве Бутраса Галі падкрэсліваецца, што нядаўняя серыя тэрактаў у Ізраілі азначае, што тэрор «зноў падняў галаву». У сувязі з гэтым Галі заклікаў усе краіны свету аб'яднаць намаганні ў барацьбе з гэтым злом. Генеральны сакратар ААН заявіў, што нішто не можа апраўдаць нягоднікаў, якія забіваюць ні ў чым не вінаватых людзей.

**«ХАМАЗ» ХОЧА «ДАМОВІЦЦА»**

Пасля выбуху бомбы ў цэнтры Тэль-Авіва ў панядзелак, у выніку чаго загінулі 13 і атрымалі раненні 70 чалавек, ваеннае крыло групоўкі «Хамаз», якая ўзяла на сябе адказнасць за тэракт, аб'явіла, што спыніць дзейнасць тэрарыстаў да чэрвеня, калі ізраільскія ўлады спыняць праследаванне удзельнікаў руху «Хамаз».

**ІРАН ПАДАЗРАЮЦЬ У САДЗЕЙНІЧАННІ ТЭРАРЫСТАМ**

Біл Клінтан заявіў, што Злучаныя Штаты адпраўляюць у Ізраіль партыю дэтэктараў выбуховых устройстваў і накіроўваюць групу экспертаў па барацьбе з тэрарызмам. Як паведаміла радыё «Свабода», прадстаўнік Белага дома заявіў, што ЗША звернуцца да сваіх саюзнікаў з заклікам ізаляваць Іран, які падазраюць у садзейнічанні тэрарыстам.

# «Элсі» спадзяецца толькі на сябе

*На рэспубліканскай нарадзе, на якой падводзіліся вынікі работы прамысловага і паліўна-энергетычнага комплексу за мінулы год, адзначалася, што шмат прадпрыемстваў знаходзіцца ў даволі складаным становішчы.*

*Наваполацкі завод «Вымяральнік», які ў свой час паспяхова працаваў у структуры ваенна-прамысловага комплексу, выпрабляючы прадукцыю спецыяльнага прызначэння для касмічнай прамысловасці, выключэннем тут не з'яўляецца.*

*Існуючая на заводзе структура кіравання аказалася няздольнай хутка рэагаваць на змены, якія дыктаваліся пераходам да рыначнай эканомікі. І 1993 — пачатак 1994 года азнаменаваліся карэннай рэарганізацыяй прадпрыемства: было прынята рашэнне аб стварэнні ў структуры «Вымяральніка» асобых гаспадарча-разліковых падраздзяленняў, якія б займаліся выпускам пэўнага віду прадукцыі. Так нарадзілася больш як дзесяць вытворча-тэхнічных фірмаў без утварэння юрыдычнай асобы, але з разліковым рахункам — «Радыян», «Элсі», «Аргумент», «Мехзавод» і іншыя. Некаторыя з іх існавалі нядоўга — паўтара-два гады і былі ліквідаваны, бо не змаглі выжыць...*

*Сярод іншых — фірма «Элсі» (г. зн. электронныя сілавыя вымярэнні). Яна сёння — даччынае дзяржаўнае прадпрыемства завода «Вымяральнік» з правам юрыдычнай асобы. У яе саставе канструктарская і тэхналагічная службы, зборачная і механічная вытворчасці. Такая структура дазваляе забяспечыць увесь цыкл падрыхтоўкі вырабаў — ад іх распрацоўкі да выпуску і абслугоўвання ў працэсе эксплуатацыі.*

*Як удалося невялікаму падраздзяленню ў саставе «Вымяральніка» літаральна за два гады знайсці сваё месца на беларускім рынку, асвоіць выпуск новай прадукцыі і наладзіць яе вытворчасць? З гэтага пытання і пачалася размова з дырэктарам фірмы «Элсі» Яўгенам ЗІНЧАНКАМ.*

— У 1993 годзе падзенне вытворчасці прадукцыі спецыяльнага прызначэння склала каля 90 працэнтаў. Але да таго часу мы ўжо займаліся асваеннем вырабаў народнагаспадарчай тэматыкі. І ў гэтым годзе пачалі серыйны выпуск прыбораў уліку цеплавой энергіі. Прызнацца, калі да нас звярнуліся з такой прапановай супрацоўнікі Беларускага цеплаэнергетычнага інстытута, мы не бачылі яе актуальнасці. Толькі ў працэсе работы стала зразумелым, што праблема эканоміі цеплаэнергарэсурсаў хутка выйдзе ледзь не на першы план, а цеплалічыльнікі, выпускам якіх мы цяпер займаемся, будуць важным фактарам яе вырашэння.

Спачатку аб'ёмы вытворчасці былі невялікія, бо ў той час многія спажыўцы і не ведалі пра існаванне такіх прыбораў. У гэтых умовах новапалачане актыўна заняліся рэкламаваннем сваёй прадукцыі, а паралельна — стварэннем збытавой сеткі ў рэспубліцы, а таксама сеткі гарантыйнага абслугоўвання прыбораў. Такая работа дала вынікі, і ў 1994 годзе аб'ём вытворчасці цеплалічыльнікаў павялічыўся, а наваполацкія вытворцы занялі дамінуючае становішча на рынку збыту гэтай прадукцыі. Але сёння канкурэнтаў у фірмы «Элсі» прыбавілася, а значыць, неабходна і далей працаваць.

— Што мы і робім,— працягвае Я. Зінчанка.— Наш цеплалічыльнік СТ-33 ужо добра паказаў сябе. Дарэчы, «Вымяральнік» — адно з першых прадпрыемстваў, якое ўстанавіла ў сябе нашы прыборы. І вынік не прымусіў сябе доўга чакаць — плата за выкарыстанне цеплавой энергіі зменшылася ў два-тры разы. На базе СТ-33 выпусцілі яшчэ чатыры мадыфікацыі. У мінулым годзе падрыхтавалі новую — СТ-38. А ў першым квартале гэтага года займаемся асваеннем трох новых відаў цеплалічыльнікаў на мікрапрацэсарнай элементнай базе з пашыранымі тэхнічнымі магчымасцямі. За паўгода існавання фірмы як даччынага прадпрыемства завода «Вымяральнік» намеціўся рост аб'ёмаў вытворчасці.

Трэба падкрэсліць, што на тэрыторыі рэспублікі дазволены да прымянення 21 від цеплалічыльнікаў. Большасць з іх — замежнай вытворчасці. Наваполацкія цеплалічыльнікі пакуль уступаюць замежным узорам знешне, тым не менш яны паспяхова канкурыруюць на рынку збыту за кошт высокай якасці. Іх ужо ацанілі шматлікія спажыўцы. Пастаянныя заказчыкі — Міністэрства аховы здароўя, Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі, Міністэрства адукацыі і іншыя ведамствы. Выканаць усе заяўкі, павялічыць аб'ём вытворчасці калектыву па сілах. Але асобныя ўчасткі мантажу, зборачнага цэха загружаны... не поўнасцю.

— Прычына такога становішча — недахват абаротных сродкаў,— тлумачыць Яўген Анатольевіч.— У мінулым годзе адбылося рэзкае вымыванне іх у сувязі з павелічэннем кошту камплектуючых пры фіксаваным курсе рубля да долара, а цану на сваю прадукцыю мы падняць не маглі, яна ўвесь год трымалася на адным узроўні. Акрамя таго, у выніку так званай пераацэнкі асноўных фондаў павялічылася колькасць скрытых падаткаў. Сёлета гісторыя паўтараецца — зноў пераацэнка асноўных фондаў.

Можна было б папаўняць абаротныя сродкі за кошт банкаўскіх крэдытаў, але высокія працэнтныя стаўкі не дазваляюць выкарыстоўваць гэту магчымасць. Трэба адзначыць, што ўвесь цяжар падатковай палітыкі ўзвалілі на сябе дзяржаўныя прадпрыемствы (дакладней кажучы, узвалілі на іх). Скажам, прадпрыемствы Міністэрства прамысловасці ўтрымліваюць амаль поўнасцю ўстановы жыллёва-камунальнай гаспадаркі за кошт павышаных тарыфаў на энергарэсурсы.

Вось так жыве даччынае прадпрыемства завода «Вымяральнік». У адрозненне ад завода, зарплата тут выплачваецца без вялікіх затрымак. Сёння «Элсі» адказвае толькі за сябе, працуе і спадзяецца толькі на сябе.

— Вы лічыце, менавіта такім чынам «Вымяральнік» павінен знайсці сваё месца пад сонцам?— пытаюся ў дырэктара фірмы.

— Так, — адказвае. — Выйсце — у стварэнні асобных самастойных прадпрыемстваў.

**Л. ТРАПЕЗНІКАВА**

## Панядзелак, 11 сакавіка

### Беларускае тэлебачанне

**7.30** Ранішні кактэйль.
**7.50** Эканамікст. Нерухомасць.
**8.00** «Ігар Уладзіміравіч Ільінскі. Урокі жыцця». Фільм-партрэт.
**9.00** «Агнявушка-паскакушка». Кароткаметражны фільм.
**9.30** «Прыгоды чароўнага глобуса, ці Хітрыкі ведзьмы». Мультфільм.
**10.35** «Душы маёй царыцы...» Фільм-канцэрт.
**11.45** «Вы чые, старыя?» Маст. фільм з субцітрамі.
**15.00** Навіны.
**15.15** «Лясныя казкі», «Вогнік». Мультфільмы.
**15.40** «Я вярнуся...» Дак. фільм.
**16.20** Тэлебачанне — школе. Музыка. 2-і клас. Сустрэча з маршам у музычных творах.
**16.35** «Дзедка за рэпку».
**17.05** Параграф. Новыя прафесіі на рынку працы.
**17.35** На добры лад. Перадача з Віцебска.
**17.50** Музычны антракт.
**18.00** «Гісторыя аднаго кахання». Дак. фільм.
**18.25** Эканамікст. Нерухомасць.
**18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV.
**18.50** Навіны (з сурдаперакладам).
**19.05** «Рызыка-версія». Тэлегульня.
**19.35** «Гэта мы не праходзілі...» Эканамічная праграма.
**19.50** Тэлевізійны Дом кіно. Сустрэча з кінарэжысёрам Георгіем Юнгвальдам-Хількевічам.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.45** Спартыўны тэлекур'ер.
**22.10** Яўген Мацвееў і Людміла Хіцяева ў мастацкім фільме «Цыган».
**23.30** Майстэрня. Мастак Рыгор Несцераў.
**24.00** Навіны.

### ГРТ

**5.00** Тэлераніца.
**8.00** Навіны.
**8.15** «Сакрэт трапіканкі». Серыял.
**9.05** Поле цудаў.
**10.00** Падарожжа з Масквы ў Татарстан.
**10.30** Адгадай мелодыю.
**11.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Захавай сябе».
**11.50** КВЗ-96. Міжнародная таварыская сустрэча паміж зборнымі камандамі СНД і Ізраіля.
**13.40** «У цьмяным царстве, шэрай дзяржаве». Мультфільм.
**14.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.20** «Драконы падзямелляў». Мультсерыял.
**14.40** Марафон-15.
**15.00** Зорная гадзіна.
**15.36** «Элен і хлопцы». Маладзёжны серыял.
**16.00** Джэм.
**16.30** Сем дзён спорту.
**17.00** Навіны.
**17.20** «Сакрэт трапіканкі».
**18.10** Гадзіна пік.
**18.35** Адгадай мелодыю.
**19.00** Калі. Вядучы — У.Познер.
**19.45** Добрай ночы, малышы!
**19.55** Рэклама.
**20.00** Час.
**20.30** Аперацыя.
**20.45** Праграма перадач.
**20.50** Крымінальны серыял «Метад Крэкера». 7-я серыя.
**21.50** Радзінскі пра Таццяну Дароніну.
**22.35** Навіны.
**22.45** Лінія кіно. Канстанцін Кінчаў у фільме Валерыя Агароднікава «Узломшчык».

### Канал «Расія»

**16.00, 19.00, 22.00** Весткі.
**16.20** Новая лінія. «Дэпеша».
**16.50** Кліп-антракт. А.Укупнік, К.Метаў.
**17.00** Ад «вінта».
**17.15** Выратаванне 911.
**18.10** L-клуб.
**19.25** Падрабязнасці.
**19.35** «Смерць асобы». Маст. фільм серыяла «Інспектар Морс». Частка 2-я.
**20.40** Рэпарцёр.
**20.55** Надвор'е.
**21.05** Без рэтушы.
**22.30** Рака часу.
**22.35** Аўтаімгненне.
**22.40** «Спрут-6». 7-я серыя.

### Расійскія універсітэты

**7.30** Мір вашаму дому.
**7.40** СІВ. Навіны.
**7.50** Рукадзельніца.
**8.05** «Школ-фільм» для дзяцей. «Работа над нацюрмортам», «Савецкі нацюрморт, 20-я гады».
**8.15** XX стагоддзе ў кадры і за кадрам. «Ханжонкаў і Ко». Частка 1-я.
**9.15** Новая пачатковая школа.
**9.45** Ноу-хау.
**10.00** Італьянская мова.
**10.30** СІВ. Навіны.
**10.35** Свет грошай Адама Сміта.
**11.30** У рабочы поўдзень.
**12.30** Гадзіна «Рэаліста».
**13.30** СІВ. Навіны.
**13.35** «Вялікая амерыканская прырода». Фільм 9-ы. «Паляванне на перапёлак». ЗША.
**14.00** Фестываль-прэм'ер. В.Арцёмаў.
**14.45** «Пра каханне». Тэлевізійны спектакль па п'есах Л.Петрушэўскай і С.Злотнікава.
**15.45** Суседзі па планеце.
**16.15** «Урокі Феміды». Тэлеконкурс.
**16.45** СІВ. Навіны.

### НТБ

**17.00** НТБ прадстаўляе: анонс тыдня.
**17.05** Кінатэатр юнага гледача. «Цудоўныя гады». 96-я серыя (ЗША).
**17.30** Футбольны клуб.
**18.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма.
**18.35** Герой дня.
**19.00** Рэгулярныя матчы НХЛ. «Філадэльфія» — «Нью-Джэрсі».
**21.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма.
**21.35** Гадзіна серыяла. «Любоўныя вузы-2». Дамінік Санда ў фільме Ліны Вертмюлер «Тайны дзесяты». Частка 1-я (Італія).
**22.30** Часінка.
**23.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма. Начны выпуск.
**23.20** Музычная праграма. «Пілот-2».

### Санкт-Пецярбург

**12.00, 15.30, 18.30, 21.45** Інфарм ТБ.
**12.10** «Першае каханне». Серыял.
**13.00** Хуткая дапамога.
**13.30** Падарожжа па Усходзе.
**13.40, 17.35** Музычны момант.
**13.50** Аўтарская версія фільма А.Вайды «Зямля запаветная».
**15.40** «Нямецкая хваля».
**15.55** «Зямля запаветная». Частка 2-я.
**17.10** Стыль жыцця.
**17.25** «Паўлінавы хвост». Мультфільм.
**17.40** «Страсці-мардасці».
**17.55** Загадана выжыць.
**18.10** Вялікі фестываль.
**18.50** Спартыўныя навіны.
**18.55** «Першае каханне». Серыял.
**19.45** Тэлеслужба бяспекі.
**19.55** «Падарожжа ў шчаслівую Аравію». Маст. фільм.
**21.15** «Дом кіно». Клаўдыа Кардынале, Анджэй Вайда, Олівер Стоун, Роберт Радрыгес і іншыя.
**22.00** Спорт, спорт... Спецвыпуск. Кубак Еўропы па біятлону.
**22.25** Дзень нараджэння.
**22.35** «Тэлекампакт». Музычнае шоу.
**23.15** Авертайм.

## Аўторак, 12 сакавіка

### Беларускае тэлебачанне

**7.30** Ранішні кактэйль.
**7.50** Эканамікст.
**8.00** Навіны.
**8.15** Аўта-парк.
**8.30** Абібок.
**9.00** Тэлебачанне — школе. Музыка. 2-і клас. Сустрэча з маршам у музычных творах.
**9.15** «Вестгейт». Тэлесерыял.
**10.10** «Апошняй вясною...» Фільм-канцэрт.
**10.40** «Марыца». Маст. фільм.
**11.45** «Быў дзень і час». Дак. фільм.
**12.35** «Карціна». Трохсерыйны маст. фільм. 1-я серыя.
**15.00** Навіны.
**15.15** «Пад адным дахам», «Плюх і Пліх». Мультфільмы.
**15.40** Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 11-ы клас. «Народная трагедыя». Васіль Быкаў і яго аповесць «Знак бяды».
**16.20** «Усё пра ўсё». Праграма для дзяцей.
**16.45** «Невымоўнае». 1-я частка «Школьніца Вольга Бародзіч».
**17.20** Урокі Наталлі Наважылавай.
**17.50** Музычны антракт.
**18.00** Інваспорт. Шклоўская школа-інтэрнат.
**18.25** Эканамікст.
**18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV.
**18.50** Навіны (з сурдаперакладам).
**19.05** Вертыкаль.
**19.40** «Вестгейт». Тэлесерыял.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.55** Музычны антракт.
**22.05** Сафіко Чыаурэлі і Ганна Ціханава ў маст. фільме «Палёт начнога матылька».
**23.30** «Супергол».
**24.00** Навіны.

### ГРТ

**5.00** Тэлераніца.
**8.00** Навіны.
**8.15** «Сакрэт трапіканкі».
**9.05** Калі. Вядучы — У.Познер.
**9.50** Смехапанарама. Вядучы — Я.Петрасян.
**10.15** «Загадкавая планета». Мультфільм.
**10.30** Адгадай мелодыю.
**11.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Мы і рынак».
**11.50** «Адкрытая кніга». Фільм 1-ы. 1-я серыя.
**13.00** «У заапарку — рамонт». Мультфільм.
**13.10** «Т.С.Н.» («Тэлевізійная служба навін»). Серыял.
**14.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.20** «Драконы падзямелляў».
**14.40** Квар'етэ «Вясёлая кампанія».
**14.50** Мульціtролія.
**15.10** Чароўны свет, або Сінема.
**15.35** «Элен і хлопцы».
**16.00** ...Да шаснаццаці і старэйшым.
**16.30** Сем дзён спорту.
**17.00** Навіны.
**17.20** «Сакрэт трапіканкі».
**18.10** Гадзіна пік.
**18.35** Адгадай мелодыю.
**19.00** Тэма.
**19.45** Добрай ночы, малышы!
**19.55** Рэклама.
**20.00** Час.
**20.30** Аперацыя.
**20.45** Праграма перадач.
**20.50** Леанід Харытонаў у фільме «Вуліца поўная нечаканасцей».
**22.05** Масква—Крэмль.
**22.25** Прэс-клуб.
**23.35** Навіны.
**23.45** «Чароўная сіла мастацтва». Тэлефільм.
**0.50** Сем дзён спорту.

### Канал «Расія»

**15.05** Свята кожны дзень.
**15.15** Там-там навіны.
**15.30** «Пераадоленне». Дак. фільм з цыкла «Перамены ў маім жыцці» (Германія).
**15.45** Каляндар.
**15.55** Кліп-антракт. Валерыя.
**16.00, 19.00, 22.00** Весткі.
**16.20** Новая лінія. «Калі мы разам».
**16.50** «Дзірка». Мультфільм.
**16.55** Кінаафіша.
**17.10** Непапулярная тэма.
**17.25** Вуснамі дзіцяці.
**17.55** Кіно з працягам. «Пецярбургскія тайны».
**19.25** Падрабязнасці.
**19.35** «Штаны». Маст. фільм.
**21.05** Прагноз надвор'я.
**21.10** Баскетбол. ЦСКА — «Па-Артэз» (Францыя).
**22.30** Рака часу.
**22.35** Аўтаімгненне.
**22.40** Экран крымінальных паведамленняў.
**22.50** «Спрут-6». 8-я серыя.
**23.45** Джаз-клуб.

### Расійскія універсітэты

**7.30** Мір вашаму дому.
**7.40** СІВ. Навіны.
**7.50** Французская мова для дзяцей.
**8.10** XX стагоддзе ў кадры і за кадрам. «Ханжонкаў і К0». Частка 2-я.
**9.10** Вышэйшая школа.
**9.25** Французская мова ў дзеянні.
**9.55** Французская мова для вас. Нацыянальная асамблея.
**10.30** СІВ. Навіны.
**10.35** Невядомая Масква.
**10.50** На залатым ганку сядзелі.
**11.05** Абарона і бяспека.
**11.30** У рабочы поўдзень.
**12.30** Гадзіна «Рэаліста».
**13.30** СІВ. Навіны.
**13.35** Новы стары свет.
**14.05** Медыцынскія навіны Расіі.
**14.10** «Чырвонае і чорнае». Тэлевізійны шматсерыйны маст. фільм. 3-я серыя.
**15.15** Сучасныя мемуары.
**15.45** Куміры. Марыя Савіна.
**16.15** Галоўны тут я.
**16.45** СІВ. Навіны.

### НТБ

**17.00** Кінатэатр юнага гледача. «Цудоўныя гады». 97-я серыя (ЗША).
**17.30** Вялікі рынг.
**18.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма.
**18.35** Герой дня.
**19.00** Свет кіно. Лайза Мінелі і Інгрыд Бергман у фільме Вінсентэ Мінелі «Ніна. Гэта пакажа час» (ЗША—Італія).
**20.45** «Оба-на»: выбранае.
**21.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма.
**21.35** Гадзіна серыяла. «Любоўныя вузы-2». Дамінік Санда ў фільме Ліны Вертмюлер «Тайны дзесяты». Частка 2-я (Італія).
**22.30** Часінка.
**23.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма. Начны выпуск.
**23.20** Меламанія: «Юрытмікс».

### Санкт-Пецярбург

**12.00, 15.30, 18.30, 21.45** Інфарм ТБ.
**12.10** «Першае каханне». Серыял.
**13.00** Хуткая дапамога.
**13.30** Парады садаводам.
**13.40** Авертайм.
**14.00** «Нямецкая хваля».
**14.15** Стыль жыцця.
**14.30** «Выкраданне чарадзея». Тэлеспектакль.
**16.25** «Тры колы, фаліянт і...»
**16.55, 19.45** Музычны момант.
**17.00** Па ўсёй Расіі.
**17.10** Паказвае Ленінградская абласная тэлекампанія.
**18.10** Вялікі фестываль.
**18.50** Спартыўныя навіны.
**18.55** «Першае каханне». Серыял.
**19.50** Тэлеслужба бяспекі.
**20.00** «Ціхі вечар» з С.Шолахавым.
**22.00** Спорт, спорт...
**22.10** Дзень нараджэння.
**22.20** Маст. фільм «Ленінградскія каўбоі» сустракаюцца з Маісеем» (Фінляндыя).

***Віншуем з 60-годдзем КАВАЛЕНКУ Яўгена Апанасавіча! Жадаем моцнага здароўя і доўгіх гадоў жыцця.***
***Жонка, сыны, нявестка, унук.***

## Серада, 13 сакавіка

### Беларускае тэлебачанне

**7.30** Ранішні кактэйль.
**7.50** Эканамікст.
**8.00** Навіны.
**8.15** «Уладары бліскавіц». Мультфільм.
**8.25** «Не адлятай, зямлянін!» Кароткаметражны маст. фільм.
**9.00** Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 11-ы клас. «Народная трагедыя». Васіль Быкаў і яго аповесць «Знак бяды».
**9.40** «Вестгейт.» Тэлесерыял.
**10.35** «Зорная ростань». Тэлеконкурс маладых артыстаў эстрады.
**11.15** Відзьма-нявідзьма.
**12.15** «Карціна». Маст. фільм. 2-я серыя.
**15.00** Навіны.
**15.15** «Казка для Наташы». Мультфільм.
**15.25** «Невымоўнае». Частка 2-я «Музыкант Зміцер Сляповіч».
**16.00** «Водгулле-86». Перадача з Магілёва.
**16.30** Правінцыя. Навагрудскі раён.
**17.00** Крэда.
**17.20** Госці ў хату. Англія сёння.
**17.50** Музычны антракт.
**18.00** Роднае слова.
**18.25** Эканамікст.
**18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV.
**18.50** Навіны (з сурдаперакладам).
**19.05** «Кантрасты». Прававая праграма.
**19.35** «Хто гэта?» Тэлегульня.
**19.40** «Вестгейт». Тэлесерыял.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.55** Музычны антракт.
**22.05** Андрэй Міронаў, Яўген Еўсцігнееў у маст. фільме «Неверагодныя прыгоды італьянцаў у Расіі».
**24.00** Навіны.
**0.15** Каралеўскае паляванне.

### ГРТ

**5.00** Тэлераніца.
**8.00** Навіны.
**8.15** «Сакрэт трапіканкі».
**9.05** Тэма.
**9.50** У свеце жывёл (з сурдаперакладам).
**10.30** Адгадай мелодыю.
**11.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Кантакт — дзелавое супрацоўніцтва краін Садружнасці».
**11.50** «Адкрытая кніга». Фільм 1-ы. 2-я серыя.
**13.00** «Намаляваць пачатак». Мультфільм.
**13.10** «Т.С.Н.» («Тэлевізійная служба навін»). Серыял.
**14.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**14.20** «Драконы падзямелляў».
**14.40** Кактус і Ко.
**14.50** До-мі-соль.
**15.10** Покліч джунгляў.
**15.35** «Элен і хлопцы».
**16.00** Тэт-а-тэт.
**16.30** Сем дзён спорту.
**17.00** Навіны.
**17.20** «Сакрэт трапіканкі».
**18.10** Гадзіна пік.
**18.35** Адгадай мелодыю.
**19.00** Парыжскія тайны Эльдара Разанава. Марына Уладзі.
**19.45** Добрай ночы, малышы!
**20.00** Час.
**20.30** Аперацыя.
**20.50** Фільм Станіслава Гаварухіна «Дзесяць негрыцянят».
**23.10** Навіны.
**23.20** Новыя абывацелі.
**23.45** «Карамбаліна-Карамбалета». Музычны тэлефільм.
**0.50** Сем дзён спорту.

### Канал «Расія»

**9.05** «Санта-Барбара».
**10.00, 16.00, 19.00, 22.00** Весткі.
**10.20** Міліцэйская хроніка.
**10.30** Музычны экспромт.
**10.45** «Чароўны школьны аўтобус». Мультсерыял.
**11.15** Новая лінія.
**15.05** Свята кожны дзень.
**15.15** Там-там навіны.
**15.30** Чый бок?
**16.20** Далёкі Усход.
**16.50** Ніхто не забыты.
**16.55** Ваш партнёр. «Цэптэр».
**17.10** Кіпрас Мажэйка. «Паралелі».
**17.25** Свая гульня.
**17.55** Кіно з працягам. «Пецярбургскія тайны».
**19.25** Падрабязнасці.
**19.35** «Санта-Барбара».
**20.30** Ад фортэ да піяна.
**21.00** Прагноз надвор'я.
**21.10** Рэк-тайм.
**21.25** Астралогія кахання. Т.Гвердцытэлі.
**22.30** Рака часу.
**22.35** Аўтаімгненне.
**22.40** Сад культуры.

### Расійскія універсітэты

**7.30** Мір вашаму дому.
**7.40** СІВ. Навіны.
**7.50** Гісторыя рускага жывапісу. «Памяці Урубеля». Дак. фільм.
**8.10** Руская музычная калегія. І.-С.Бах. Брандэнбургскі канцэрт.
**8.25** Гісторыя — настаўнік жыцця. «Аляксандр ІІ». Тэлевізійны дак. фільм.
**9.35** Нямецкая мова. 1-ы і 2-і гады навучання.
**10.30** СІВ. Навіны.
**10.35** Шоу «Зоркі эстрады».
**11.30** У рабочы поўдзень».
**12.30** Гадзіна «Рэаліста».
**13.30** СІВ. Навіны.
**13.35** Камп'ютэрны веснік.
**14.05** «Чырвонае і чорнае». Тэлевізійны шматсерыйны маст. фільм. 4-я серыя.
**15.10** Цёмкавы адкрыцці.
**15.30** Аўдыторыя.
**16.15** Пігмаліён.
**16.45** СІВ. Навіны.

### НТБ

**17.00** Кінатэатр юнага гледача. «Цудоўныя гады». 98-я серыя (ЗША).
**17.30** Такое спартыўнае жыццё.
**18.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма.
**18.35** Герой дня.
**19.00** Свет кіно. Мішэль Пфайфер, Мэцью Модзін і Алек Болдуін у фільме Джанатана Дэмі «Замужам за мафіяй» (ЗША).
**20.45** «Оба-на»: выбранае.
**21.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма.
**21.35** Гадзіна серыяла. «Любоўныя вузы-3». Ліна Састры і Марыо Адорф у фільме Нані Лоя «Салонная гульня» (Італія).
**22.30** Часінка.
**23.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма. Начны выпуск.
**23.20** Кафэ Абломаў.

### Санкт-Пецярбург

**12.00, 15.30, 18.30, 21.45** Інфарм ТБ.
**12.10** «Першае каханне». Серыял.
**13.00** Хуткая дапамога.
**13.30** Парады садаводам.
**13.40** «Я вяртаю Ваш партрэт». Музычны фільм.
**14.40** «У страха вочы вялікія», «На дачы». Мультфільмы.
**15.05, 17.05, 21.00** Музычны момант.
**15.15** Стыль жыцця.
**15.40** «Нямецкая хваля».
**16.00** «Дом кіно». Клаўдыа Кардынале, Анджэй Вайда, Олівер Стоун, Роберт Радрыгес і іншыя.
**16.35** «Песенька за песенькай».
**17.10** Паказвае Ленінградская абласная тэлекампанія.
**18.10** Вялікі фестываль.
**18.50** Спартыўныя навіны.
**18.55** «Першае каханне». Серыял.
**19.50** Тэлеслужба бяспекі.
**20.00** Гадзіна мэра.
**21.05** Блеф-клуб.
**22.00** Спорт.
**22.10** Дзень нараджэння.
**22.20** Парадоксы гісторыі.

## Чацвер, 14 сакавіка

### Беларускае тэлебачанне

**7.30** Ранішні кактэйль.
**7.50** Эканамікст.
**8.00** Навіны.
**8.15** «Мужчынскі хор», «Тры гісторыі з тэлефонам». Маст. фільмы.
**9.00** «Вестгейт». Тэлесерыял.
**9.55** «Як лісы з курамі пасябравалі», «Адкрытае акно». Мультфільмы.
**10.25** «Гісторыя аб прынцэсе-пастушцы і яе верным кані Фаладзе». Маст. фільм з субцітрамі.
**11.45** «Галубы мае вы мілыя...» Дак. фільм.
**12.05** «Карціна». Маст. фільм. 3-я серыя.
**15.00** Навіны.
**15.15** «Зімоўка звяроў», «Кот у ботах». Мультфільмы.
**15.45** Тэлебачанне — школе. Геаграфія Беларусі. 9-ы клас. Цэнтральная Беларусь як прыродна-гаспадарчы раён.
**16.15** «Невымоўнае». Частка 3-я. Філосаф Зміцер Верашчагін.
**16.50** Урокі Наталлі Наважылавай.
**17.20** Арсенал. Праграма для вайскоўцаў.
**17.50** Музычны антракт.
**18.00** Гульня ў лялькі.
**18.25** Эканамікст.
**18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV.
**18.50** Навіны (з сурдаперакладам).
**19.05** «Міжнародны кур'ер». Падзеі, факты, каментарыі.
**19.40** «Вестгейт». Тэлесерыял (ЗША). Заключная серыя.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.55** Музычны антракт.
**22.05** Алег Басілашвілі, Марына Няёлава, Наталля Гундарава ў маст. фільме «Асенні марафон».
**23.45** «Крок». Праграма для моладзі.
**0.15** Навіны.

### ГРТ

**5.00** Тэлераніца.
**8.00** Навіны.
**8.15** «Сакрэт трапіканкі».
**9.05** Парыжскія тайны Эльдара Разанава. Марына Уладзі.
**9.45** Клуб падарожнікаў (з сурдаперакладам).
**10.30** «Чужое свята». Мультфільм.
**10.40** Смак.
**11.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». «Пад дахам свету».
**11.50** «Адкрытая кніга». Фільм 1-ы. 3-я серыя.
**13.00** «Дзед Мазай і зайцы». Мультфільм.
**13.10** «Т.С.Н.».
**14.00** Навіны.
**14.20** «Драконы падзямелляў».
**14.40** Лега-га!
**15.10** Цін-Тонік.
**15.35** «Элен і хлопцы».
**16.00** Рок-урок.
**16.30** Сем дзён спорту.
**17.00** Навіны.
**17.20** «Сакрэт трапіканкі».
**18.10** Гадзіна пік.
**18.35** Лато-Мільён.
**19.00** Адзін на адзін. Вядучы — А.Любімаў.
**19.45** Добрай ночы, малышы!
**19.55** Рэклама.
**20.00** Час.
**20.30** Аперацыя.
**20.45** Праграма перадач.
**20.50** Сціven Спілберг прадстаўляе фантастычны фільм «Батарэйкі ў камплект не ўваходзяць».
**22.40** Музычнае шоу Івана Дзямідава.
**23.30** Навіны.
**23.40** «Дзе б ні працаваць...» Тэлефільм.
**0.55** Сем дзён спорту.

### Канал «Расія»

**9.05** «Санта-Барбара».
**10.00, 16.00, 19.00, 22.00** Весткі.
**10.20** Міліцэйская хроніка.
**10.30** Мульці-пульці. «Пра хлопчыка, які хацеў стаць чараўніком».
**10.45** «Чароўны школьны аўтобус». Мультсерыял.
**11.15** Новая лінія.
**15.05** Свята кожны дзень.
**15.15** Там-там навіны.
**15.30** Кенгуру.
**16.20** Новая лінія.
**16.50** Кліп-антракт. Т.Ветрава.
**16.55** Экспавідэа.
**17.10** Музыка на дэсерт.
**17.25** Лідэр-прагноз.
**17.55** Кіно з працягам. «Пецярбургскія тайны».
**19.25** Падрабязнасці.
**19.35** «Санта-Барбара».
**20.30** Джэнтльмен-шоу.
**21.00** Прагноз надвор'я.
**21.10** «Доктар-шлягер». Юбілейны вечар Вячаслава Дабрыніна.
**22.30** Рака часу.
**22.35** Аўтаімгненне.
**22.40** Экран крымінальных паведамленняў.
**22.50** «Спрут-6». 9-я серыя.

### Расійскія універсітэты

**7.30** Мір вашаму дому.
**7.40** СІВ. Навіны.
**7.50** Нямецкая мова для дзяцей.
**8.15** Варыяцыі на іспанскую тэму. Дырыжор В.Дударава.
**9.00** Ноу-хау: інфармацыя, людзі, ідэі.
**9.30** Падарожжа ў краіну іспанскай мовы. 1- ы і 2-і гады навучання.
**10.30** СІВ. Навіны.
**10.35** АРІОС.
**11.30** У рабочы поўдзень.
**12.30** Гадзіна «Рэаліста».
**13.30** СІВ. Навіны.
**13.35** Чужыя?..
**14.05** «Чырвонае і чорнае». Тэлевізійны шматсерыйны маст. фільм. 5-я серыя.
**15.15** Сярэдняя школа сёння.
**15.45** Крыніцы сярэбраныя. Сакавік.
**16.15** Амплітуда поспеху.
**16.30** Маленькі канцэрт.
**16.45** СІВ. Навіны.

### НТБ

**17.00** Кінатэатр юнага гледача. «Цудоўныя гады». 99-я серыя (ЗША).
**17.30** Паўгадзіны пра тэніс.
**18.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма.
**18.35** Герой дня.
**19.00** Прэмія «Оскар». Джордж Сі Скот і Даяна Рыг у фільме Артура Хілера «Бальніца» (ЗША).
**20.50** «Оба-на»: выбранае.
**21.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма.
**21.35** Гадзіна серыяла. «Любоўныя вузы-4». Кэрал Олт у фільме Дзіна Рызі «Жыць — дрэнная звычка» (Італія).
**22.30** Часінка.
**23.00** «Сёння». Інфармацыйная праграма. Начны выпуск.
**23.20** Кіно не для ўсіх. Даян Кітон, Майкл Мэрфі і Мэрыл Стрып у фільме Вудзі Алена «Манхэтэн» (ЗША).

### Санкт-Пецярбург

**15.05** Парады садаводам.
**15.15** Стыль жыцця.
**15.30, 18.30, 21.45** Інфарм ТБ.
**15.40** «Нямецкая хваля».
**15.55** «Першае каханне». Серыял.
**16.40** Спявай з намі.
**17.00** Па ўсёй Расіі.
**17.10** Паказвае Ленінградская абласная тэлекампанія.
**18.15** Вялікі фестываль.
**18.50** Спартыўныя навіны.
**18.55** «Першае каханне». Серыял.
**19.45, 21.35** Музычны момант.
**19.50** Тэлеслужба бяспекі.
**20.00** «Спявак, ігрок, бадзяга». Род Вел.
**20.30** Экспрэс-кіно.
**20.45** «Залаты Цялец». Забаўляльная праграма.
**22.00** Спорт, спорт...
**22.10** Дзень нараджэння.
**22.20** «Старое танга». В.Гаўрылін.
**22.40** Ток-шоу «Асабістыя справы». У.Я.Варашылаў.

# ВОПРАТКА-МАРА Ў ВЫКАНАННІ БЕЛАРУСКІХ МАДЭЛЬЕРАЎ





**Напярэдадні галоўнага веснавога свята прайшоў III Рэспубліканскі фестываль-конкурс маладых мастакоў-мадэльераў «Міла-96».**



У ГЭТЫМ ГОДЗЕ больш жорсткімі былі патрабаванні да канкурсантаў: яны прадстаўлялі да ўвагі журы па тры мадэлі, аб'яднаныя адным дэвізам. Усе эскізы паступалі ў рэдакцыю жаночай газеты «Міла-плюс», па ініцыятыве якой ужо традыцыйна праводзіцца конкурс, і ў Беларускі цэнтр моды. У другі тур выйшла 48 маладых мадэльераў, а фіналістамі сталі 15 чалавек.

— Мы зыходзілі з таго, што ўсе мадэлі павінны быць прафесіянальна пададзены, — сказала Галіна Мяшкова, галоўны мастацтвазнаўца БЦМ. Але калі ў рабоце была нейкая іскрынка, яе абавязкова вылучалі. Прыемна, што некаторыя ўдзельнікі конкурсу даволі юныя — 16-гадовы Іван Баеў ужо ў мінулым годзе прапаноўваў свой выраб, на жаль, вельмі сыры. Тым не менш, яму паверылі, ён цэлы год рыхтаваўся, працаваў над сабой — і сёлета яго эскізы я проста не пазнала! У фінал ён не трапіў, але прадставіў цэльныя работы з цікавай тэхнікай плясцення, удалыя па каларыту. Арыгінальныя работы атрымаліся ў Дзмітрыя Грышука — ён сам пляце, робіць чацінок са спіцы веласіпеда, па ўсёй кватэры наколвае ніткі...

Конкурс стаў сапраўдным святам для маладых мадэльераў. І ўсё ж крыўдна, што многія таленавітыя юнакі і дзяўчаты не змаглі паўдзельнічаць па прычыне, зусім банальнай для нашага часу: не знайшлося грошай наваг на тканіну. А праблема мецэнацтва, інвеставання маладых талентаў, на жаль, пакуль што цяжкавырашальная. Пераможца мінулагодняга конкурсу Алена Сяргеева ўзнагароджана стажыроўкай у парыжскай школе стылістаў «ЭСМОД» — французы прадастаўляюць ёй магчымасць на працягу года вучыцца бясплатна (год навучання каштуе каля 10 тыс. долараў), але пражыванне — за свой кошт. Журналістам «Мілы-плюс» пакуль не ўдалося знайсці спонсараў, якія б узялі на сябе выдаткі... Дарэчы, на фінальным шоу, якое можна будзе пагладзець па канале Беларускага тэлебачання 8 сакавіка, пераможцы мінулагодніх конкурсаў «Мілы» — Алена Сяргеева, Ганна Балаш і Улад Тарошчын паказалі свае калекцыі.

Гаворачы пра крытэрыі, якім павінна адпавядаць сапраўдная мадэль, менеджэр парыжскай школы стылістаў «ЭСМОД» мадам Аннеліз Ман звярнула ўвагу на два накірункі: адпаведнасць рынку (каб прапанаваемае адзенне куплялі і насілі) і наяўнасць пэўнага іміджа. «Мы павінны прапанаваць такое адзенне, якое людзі маглі б набыць у будучыні, — мадэль-мару, мадэль-натхненне. А калі мадэль падобная на тое, што ўжо ёсць, хай нават добрае, — гэта не мадэль!» Мадам Аннеліз патлумачыла, чаму ад канкурсантаў патрабаваліся 3-4 мадэлі, выкананыя на адну тэму: чалавек хоча купіць звычайна не адну нейкую рэч, а цэлы свет рэчаў, якія б адпавядалі адна адной. А дызайнер павінен стварыць адзін імідж, прадстаўлены ў розных мадэлях. Мадам Аннеліз адзначыла таксама, што мінімальныя магчымасці ў плане выбару тканіны і фурнітуры ў Беларусі кампенсуюцца багатым россыпам ідэй.

Галоўны рэдактар газеты «Міла плюс», выканаўчы дырэктар фестывалю Галіна Грынкевіч:

— У гэтым годзе мы не вызначалі пераможцаў па намінацыях: усе 15 фіналістаў прадставілі цікавыя работы. Але абмяркоўваючы, каго накіроўваць на стажыроўку ў Францыю, Германію, БЦМ, мы ўлічвалі не толькі здольнасці, але і асабістыя якасці чалавека. Таму ўсе фіналісты прайшлі субяседаванне з журы. У Францыю запрошана Юлія Пакала, студэнтка Віцебскага дзяржаўнага тэхналагічнага універсітэта. Калі яна не зможа паехаць, то Алена Ягорава, студэнтка Беларускай акадэміі мастацтваў (БАМ), Інеса Калпашнікава, выпускніца БАМ, Таццяна Карымава, мастак-дызайнер віцебскага швейнага ВА «Віцябчанка» — тая з іх, хто знойдзе сродкі на дарогу і пражыванне: навучанне ў школе «ЭСМОД» бясплатнае.

Двухтыднёвую стажыроўку на адным са швейных прадпрыемстваў Германіі атрымала Алена Коршак, студэнтка БАМ. У Беларускім цэнтры моды будзе стажыравацца інжынер-канструктар ВА «Віцябчанка» Ілона Канчатава, а мастак-дызайнер гэтага ж прадпрыемства Таццяна Карымава атрымала пуцёўку ў Балгарыю. Усе фіналісты запрошаны паступаць без экзаменаў на факультэт выяўленчага мастацтва Гродзенскага дзяржуніверсітэта.

Выхаванне беларускай школы мадэліравання, пошук маладых талентаў — памкненні высакародныя. Здаецца, прыгажосць і дабрыня — паняцці ўзаемазвязаныя?..

**Таццяна ПАДАЛЯК.**
**Фота Сяргея БРУШКО.**

# КАРЦІНЫ МЕСЦЯЦЦА НЕ ТОЛЬКІ Ў МУЗЕЯХ





У ЛЮТЫМ у Германіі прайшла адна з буйнейшых выставак адзення ў Еўропе — «C.P.D.». Такія выставы адбываюцца двойчы ў год і носяць сезонны характар. Акрамя месца заключэння гандлёвых здзелак выстаўка «C.P.D.» з'яўляецца свайго роду індыкатарам моды на будучы сезон. Што ж нам прапануюць насіць вясной 96-га?

Бясспрэчны колеравы лідэр сезона — чырвоны. Паліто і касцюмы, хусткі і блузкі — усюды пажадана прысутнасць хаця б як аздабляючага элемента чырвонага колеру. Класічнае спалучэнне чорнага і чырвонага зноў набірае балы поспеху. Паліто веснавога сезона выразнай прыталенай формы, часцей чырвонае, але папулярнымі становяцца паліто з белага, цёмна-сіняга, чорнага драпу. Адкрыцём сезона прызнаны алўкавы колер. Аздабляюцца паліто штучным чорным каракулем.

У сезон «вясна-96» практычна ва ўсіх накірунках адзення выразна прасочваецца цяга да натуральных тонаў. Асабліва добра бачна гэта ў вельмі папулярным сёлета касцюме ў стылі «а ля Шанэль». Прыталены (злёгку!) жакет і ўкарочаная, крыху вышэй калена, свабодная спадніца. Заўважце: крыху вышэй калена, а не да непрыстойнасці пошлая даўжыня. З тканін перавага аддаецца твіду. Шырока выкарыстоўваецца букле, праўда, яно стала больш цяжкім у параўнанні з тканінай, да якой мы ўжо прывыклі. Набірае папулярнасць тканіна з вялікім працэнтным утрыманнем махеру — 80—90 працэнтаў.

Важнай асаблівасцю моды вясенне-летняга сезона з'яўляецца вялікая колькасць адзення ў адным касцюме. Прыкладна гэта можа выглядаць так: майка, потым блуза ці кашуля, зверху камізэлька і пінжак, паліто. А завяршае гэты ансамбль хустка. Хусткі, дарэчы, будуць любімцамі моды гэтага сезона. Новая дэталь — адсутнасць геаметрычнага малюнка. У хустках пераважае рамантычны стыль, г. зн. папулярнымі будуць хусткі з рэпрадукцыямі мастацкіх карцін, націюрмортаў, пейзажаў. Хочацца адзначыць, што шыйныя хусткі папулярныя як у жаночым, так і ў мужчынскім адзенні.

Важным нюансам сезона стала высокая засцежка. Яна зашпільваецца на вялікую колькасць гузікаў (не блытаць з «Burda» 1988 года, калі гузікі былі розных памераў і размяркоўваліся хаатычна). На верхнім адзенні шмат кішэняў рознай формы.

Па-ранейшаму актуальны трыкатаж звычайны і з футравай аздобай. У трыкатажных касцюмах штрыфелі і барты пінжакоў упрыгожваюцца футрам норкі і каракулем. Такімі ж робяцца і накідкі.

Для мужчын мода прапануе камбінаваныя колеры. Адыходзіць у мінулае класічны чорны касцюм. У касцюмах камбінуюцца, напрыклад, светлыя штаны і цёмныя пінжакі. У мужчынскім гардэробе цяпер абавязкова павінна быць трыкатажная камізэлька, якая б зашпільвалася на мноства гузікаў да самага верху. Камізэлька павінна зашпільвацца так высока, каб быў бачны толькі вузел гальштука.

Вясной мы будзем хадзіць у абутку мінулага сезона, бо сур'ёзных змяненняў тут не назіраецца. Вядомая нямецкая фірма «Salamander» прапануе жанчынам ужо прывычныя туфлі на тоўстым прамым абцасе, боты-«панчохі». Для мужчын па-ранейшаму застаецца папулярнымі туфлі ў стылі «Camel» і класічныя «інспектары».

**Ягор МІЛЯГА.**

***Фота і матэрыялы прадастаўлены салонам адзення «Berghaus».***

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.
Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Брэсце — 33-640, Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 68-28-71. ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 113326. Індэкс 63850.
Зак. № 1194.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12